*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ.*


# НАША СЛОВА




№ 4 • ЧЭРВЕНЬ • 1990. Бюлетэнь Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Кошт 20 кап.


## У НУМАРЫ:



# ДА 90-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ КУЗЬМЫ ЧОРНАГА

*З нагоды юбілейнай даты выдатнага пісьменніка, майстра мастацкага слова друкуем фрагменты з яго артыкула «Небеларуская мова ў беларускай літаратуры»,*

*4-5.*



Кузьма Чорны. 1941

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

# ШТО МЫ ПАКІНЕМ ДЗЕЦЯМ

*Як паведамлялася ўжо, 11—12 мая ў Доме літаратара праходзіла навукова-практычная канферэнцыя «Дзяржаўнасць беларускай мовы: праблемы і шляхі ажыццяўлення». У мінулым нумары «Нашага слова» мы далі Зварот і Пастанову канферэнцыі. Сёння прапануўваем фрагменты выступленняў удзельнікаў канферэнцыі. На жаль, з-за абмежаванасці плошчы нашага бюлетэня, мы не можам даць выступленні ўсіх прамоўцаў. Але спадзяемся, што тую атмасферу, якая панавала на канферэнцыі, чытач усё ж адчуе. Як адчуе і жаданне ўдзельнікаў канферэнцыі працаваць не шкадуючы сіл на адраджэнне мовы, культуры, гісторыі нашага народа, на наша з вамі нацыянальнае адраджэнне.*

Канферэнцыю адкрыў кароткім уступным словам старшыня Рэспубліканскай Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны **Ніл Гілевіч**. Ен падкрэсліў актуальнасць і важнасць тэмы размовы на сучасным этапе развіцця перабудоўчых працэсаў у рэспубліцы, напярэдадні ўвядзення Закона аб мовах у Беларускай ССР у дзеянне, і выказаў спадзяванне, што абмеркаванне праблем і пытанняў на Канферэнцыі будзе гранічна шчырым, зацікаўленым, прынцыповым і што зробленыя канкрэтныя прапановы паслужаць выпрацоўцы ўрадавай праграмы па ажыццяўленні дзяржаўнага статуса нашае роднае мовы.

**Міхаіл Дзямчук**, міністр народнай адукацыі БССР.

У рэспубліцы прыняты Закон аб мовах, які зацвердзіў статус беларускай мовы як дзяржаўнай. І ў гэтым плане Закон павінен стаць тым стрыжнем палітычнага жыцця рэспублікі, вакол якога пачнецца адраджэнне культуры беларускага народа не на словах, а на справе.

Асноўны фронт барацьбы за адраджэнне нацыянальнай культуры пройдзе праз адукацыйную сферу. А гэта азначае, што праграма адраджэння нацыянальнай культуры павінна стаць асновай адукацыйнай палітыкі ў рэспубліцы.

Сёння мы блізкія да разумення таго, што без адпаведнай нацыянальнай афарбоўкі, каларыту сістэма адукацыі безжыццёвая і бездухоўная, што толькі нацыянальная сістэма адукацыі, у поўныя сэнсе гэтага слова, мае перспектыву і права на жыццё.

Прыступаючы да ажыццяўлення моўнай адукацыйнай палітыкі, мы павінны ўжо зараз добра сабе ўяўляць канчатковую мэту.

Разглядаючы адукацыйную сістэму як піраміду, дзе ў аснове дзіцячыя ўстановы, для якіх не можа быць альтэрнатывы ў выбары мовы навучальна-выхаваўчага працэсу (ёй павінна стаць родная мова), а ў вяршыні — вышэйшыя навучальныя ўстановы, будзе правільным, калі выкарыстанне беларускай мовы будзе памяншацца ад максімальна магчымых яе значэнняў унізе піраміды да 70—80% гэтых значэнняў у верхняй яе частцы.

Вышэйшая школа павінна быць у меру адкрытай у адносінах да нацыянальнай спецыфікі, каб праз вышэйшую школу можна было б з належнай доляй упэўненасці прасачыць сумяшчальнасць нашай адукацыйнай сістэмы з адукацыйнымі сістэмамі краіны і іншых дзяржаў свету.

Галоўная задача міністэрства адукацыі — распрацаваць і прыступіць да рэалізацыі паэтапнага пераводу адукацыйнай сферы рэспублікі на нацыянальную аснову ў адпаведнасці з такой мадэллю. Такая праграма павінна абапірацца на тэрытарыяльныя — абласныя, раённыя праграмы — і праграмы навучальных устаноў усіх тыпаў.

Галоўнымі раздзеламі такіх праграм павінны стаць: першае — кадравае забеспячэнне навучальна-выхаваўчага працэсу, другое — арганізацыя навучальна-выхаваўчага працэсу, трэцяе — навуковае забеспячэнне рэалізацыі праграмы і чацвёртае — матэрыяльная база навучальных устаноў.

Асаблівая складанасць у рэалізацыі Закона аб мовах прыпадзе на бліжэйшыя 2—3 гады, калі ў роўнай ступені недаравальнымі будуць як пасіўнасць у рашэнні праблемы, так і наўмыснае, ці наіўнапаспешлівае фарсіраванне яе.

Значную ўвагу ў гэтыя гады важна накіраваць на тое, каб патрэба ў вывучэнні беларускай мовы была, па магчымасці, задаволена не толькі ў адносінах да груп. але і да асобных навучэнцаў і студэнтаў

Неабходна як мага паўней задаволіць патрэбы настаўнікаў і выкладчыкаў у тым, каб яны маглі вучыць моладзь на беларускай мове.

У першыя гады рэалізацыі Закону мы павінны імкнуцца да таго, каб любыя парасткі адраджэння мовы знізу, любыя праяўленні нацыянальнай самасвядомасці былі падмацаваны адпаведнымі крокамі зверху — гэта значыць, нашай адукацыйнай палітыкай.

Прыняты саюзны Закон аб мовах народаў СССР, да якога мы не можам не выказаць сваё адносіны зараз, на гэтай канферэнцыі. Тым больш, што нават папярэдняе знаёмства з ім наводзіць на трывожны роздум. Па некаторых пазіцыях, па трактоўцы пэўных атрыкулаў саюзны Закон прынцыпова разыходзіцца з нашым рэспубліканскім Законам.

Зараз, калі мы хоць і з цяжкасцю, але

усё ж пачалі рэалізоўваць Закон аб мовах у БССР, то артыкулы 6,7 саюзнага Закона могуць стаць увогуле перашкодай на шляху выканання рэспубліканскага, бо зноў мы вяртаемся да тэзісу аб мове навучання і выхавання дзяцей у школах па жаданні бацькоў.

**Аляксей Пяткевіч**, кандыдат філалагічных навук, старшыня Гродзенскай гарадской рады ТБМ:

— Мы сабраліся ў вельмі цяжкі час, пасля прыняцця прэзідэнцкага закона аб так званай афіцыйнай мове. Практычна нам няма пра што гаварыць, калі будзе дзейнічаць гэты закон. Але мы сёння жывём у той палітычнай абстаноўцы, калі ўсё больш адчуваем сябе гаспадарамі на сваёй зямлі, усё больш самастойнымі людзьмі і таму гэта гаворка мае вельмі сур'ёзны сэнс.

Я лічу, што мы сёння павінны ў вывадах нашай канферэнцыі, у пастанове ці ў рэзалюцыі, запісаць неадназначна, што Закон аб мовах, прыняты Вярхоўным Саветам рэспублікі, павінен заставацца непарушным, таму што ў адваротным выпадку гэта замах на вельмі дарагія, не толькі ў сэнсе, так сказаць, духоўным, а ў сэнсе палітычным, на вельмі дарагія асновы жыцця рэспублікі.

Што датычыць школы, якая ў нас мае быць беларускай, і якая па логіцы рэчаў павінна стаць беларускай ужо ў гэтым навучальным годзе, то гэта пытанне ў нас застаецца пакуль без руху.

Лічу, гэту справу мы павінны вырашаць па-дзяржаўнаму. Між тым нам прапануюць — энтузіястам нацыянальгага адраджэння — займацца самім гэтым. Людзі, у руках якіх улада, не лічаць пакуль што гэта сваёй справай. За кошт толькі энтузіязму, за кошт дзейнасці толькі сяброў ТБМ нельга стварыць беларускай школы.

У нас на Гродзеншчыне вельмі лёгка ажыццяўляецца паланізацыя школы. Ёсць устаноўка афіцыйная, яна праводзіцца ў жыццё, падтрымліваецца каталіцкімі святарамі, якія стараюцца пераканаць каталіцкае насельніцтва, што яно польскае.

**Міхась Паўлаў**, лекар з Віцебшчыны, сябра Рэспубліканскай Рады ТБМ:

— Сёння мы маем лісток непрацаздольнасці, зроблены новым фарматам і надрукаваны па-руску. Раней жа ўсе бланкі, як памятаеце, былі надрукаваны па-беларуску. Магчыма, гэта і часовая з'ява, але трэба ўдакладніць.

Мне здаецца, варта было б прыняць зварот да ўрачоў Беларусі з тым, каб яны запаўнялі лісткі непрацаздольнасці па-беларуску.

Прапанаваў свае паслугі медыцынскаму інстытуту ў якасці выкладчыка гісторыі медыцыны, спасылаючыся на вядомыя пастановы, але ніякай рэакцыі, нічога нікому не патрэбна.

**Алег Трусаў**, кандыдат гістарычных навук, старшыня Савецкай раённай рады ТБМ г. Мінска:

— Калі мы будзем карыстацца падручнікамі для РСФСР у беларускіх школах, то нашы юнакі ў дзяўчаты будуць і далей вельмі далёкія не толькі ад мовы, але і ад усёй беларускай культуры.

Нам трэба свае і рускамоўныя падручнікі, і польскамоўныя і інш. Польскія ж падручнікі зараз завозяць з Польшчы. Адпаведна там напісана, што Гродна — гэта польскі горад.

Мяне вельмі абурыў артыкул у «Чырвонай змене» пра Вільню. Гэта самая агалцелая, я б сказаў, шавіністычная, польскамоўная прапаганда. Прычым, падпісана ТАСС. Мы павінны на гэтай канферэнцыі выказаць свае адносіны да гэтай публікацыі.

Я падтрымліваю прапанову М. Дземчука аб тым, што мы павінны даць наказ нашым дэпутатам Вярхоўнага Савета рэспублікі і СССР аб тым, каб 6 і 7 артыкулы саюзнага Закона аб мовах былі зменены яшчэ да таго, як гэты закон уступіць у сілу. Мы павінны праявіць дэпутацкую ініцыятыву ў адносінах да заяў бацькоў аб мове навучання іх дзяцей. Заявы бацькоў не павінны прымацца пад увагу, калі чалавек запісаны ў пашпарце, што ён беларус.

Уявіце сабе, каб у рускай школе пачалі адмаўляцца ад рускай мовы ці каб урадавыя дакументы падпісваліся, напрыклад, на англійскай мове.

**Міхась Ткачоў**, доктар гістарычных навук:

— Я прысутнічаю з вялікім хваляваннем на гэтым сходзе, параўноўваю яго са з'ездам пісьменнікаў, які нядаўна прайшоў, і думаю, што адны і тыя ж ноты гучаць у выступленнях людзей. Гэта сум і жальба аб тым бядотным стане нашай культуры, нашай мовы, нашага народа, рэспублікі.

Хацелася б падумаць трошкі смялей, глянуць наперад і, можа быць, спыніць гэты сум, таму што мы ўступаем у такі перыяд жыцця, які мы павінны акрэсліць як этап нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння народаў.

Нам трэба вызначыць сваё месца ў гэтай няпростай барацьбе, якая будзе весціся ж, канешне, не адзін год. Можа, найцяжэйшая шапка Манамаха ў нашага шаноўнага Міхаіла Іванавіча: мець такую гаспадарку, мець такую, прабачце, арду людзей, якая гатова сёння затаптаць усё святое, сваё, роднае, нацыянальнае — гэта не проста клопат, гэта — вялікае няшчасце.

Той, хто працаваў у школе, хто працаваў у вышэйшай навучальнай установе, той ведае, каго мы выгадавалі ў нашых інстытутах, нашых універсітэтах, хто стаіць за нашымі кафедрамі і што яны гавораць нашым студэнтам.

Мы павінны на гэтым сходзе не проста параіцца, але і наканаваць нейкую канкрэтную задачу, праграму выхаду з тупіка.

Беларускамоўныя класы ў рускіх школах — гэта не той шлях, які выведзе нас да беларусізацыі, да нацыянальнай адукацыі, бо гэта практычна стварэнне рэзервацый у рускамоўных школах, дзе з дзяцей з беларускіх класаў здзекваюцца, прысвойваюць розныя мянушкі. Развіваецца комплекс непаўнацэннасці ў тых дзетак, з якіх выйдуць, быць можа, нашы Ньютоны, Купалы, Коласы.

Карыстаючыся тым, што мы суверэнная рэспубліка, спадзяёмся, што дзяржава будзе выкарыстоўваць нашы правы на ўсе сто працэнтаў для стварэння сапраўды нацыянальнай школы і пераходзіць да таго, каб ствараць з першакласнікаў усе класы беларускія, вылучаючы, канешне, школы для рускага насельніцтва.

Пакуль што я прапанаваў бы ў кожным раённым цэнтры, у кожным раёне буйнога горада стварыць беларускую гімназію, адрадзіць традыцыі беларускіх гімназій, якія існавалі ў Заходняй Беларусі да 1939 года.

Усе інстытуты, усе універсітэты, дзе ёсць педагагічныя патокі, павінны з першага верасня пачаць гэты самы пераход.

У 20—30-я гады былі настаўніцкія курсы, дзе перакоўвалі гэтых самых гімназіяльных настаўнікаў Расіі.

На міністэрства ў мяне асабістая крыўда. Я выказаў жаданне напісаць падручнік гісторыі Беларусі для дзевятых класаў. Пяць месяцаў чыноўнікі шукалі паперу, каб напісаць, што яны дазваляюць удзельнічаць у гэтым конкурсе.

Калі мы, нарэшце, увядзем спецыяльны курс гісторыі БССР?

На Гродзеншчыне ўзнікла польская праблема. Ужо зараз у касцёлах вывешваюцца польскія сцягі, заяўляецца на ўвесь голас, што ў Беларусі 2,5 мільёна палякаў. Дык дзе ж гэтыя палякі, калі паводле перапісу іх усяго 400 тысяч. Значыць, практычна ўсё каталіцкае насельніцтва ў Беларусі залічваецца ў палякі?

**Яўген Цумараў**, намеснік старшыні рэспубліканскай Рады ТБМ.

Не трэба спяшацца ацэньваць Закон аб мовах у СССР толькі адмоўна. Гэты Закон шмат па якіх пунктах для нас больш прымальны, чым Закон аб мовах у БССР. Напрыклад, справы судаводства і пракуратуры па саюзным законе павінны весціся на беларускай мове з 1 ліпеня 1990 года, па рэспубліканскім тэрмін пераходу на беларускую мову расцягнуты на 10 гадоў.

Толькі ў некаторых пунктах саюзны Закон можна крытыкаваць. У гэтым Законе ёсць вельмі істотная спасылка, што ён рэгламентуе ўжыванне толькі рускай мовы і зусім не рэгламентуе выкарыстанне нацыянальнай мовы. І наш рэспубліканскі парламент у галіне ўжытку беларускай мовы мае велізарную кампетэнцыю. Не выключана, што можа на другой сесіі ўдасца ўключыць пытанне аб тым, каб унесці карэктывы ў Закон аб мовах у БССР.

Што датычыць школ усіх ступеняў, то гэта самае, зразумела, галоўнае пытанне. Мы павінны клапаціцца, каб у нас больш было школ з рознымі ўхіламі — мастацкімі, моўнымі, прыродазнаўчымі і г. д. — з беларускай мовай навучання. Нам не хапае тых прадметаў, якія паспрыяюць развіццю мовы. Трэба стварыць такія курсы як экалогія Беларусі, помнікі гісторыі і культуры Беларусі, асновы біблейскай гісторыі, асновы народнай медыцыны. Варта было б паклапаціцца пра выданне ў рэспубліцы рэлігійна-асветніцкага часопіса на беларускай мове для моладзі, парупіцца, каб у нас былі камп'ютэрныя класы з праграмамі на беларускай мове і г. д.

**Ян Матусевіч**, беларускі каталіцкі святар:

— Прайшоў амаль год з таго моманту, калі ў гэтай зале закраналіся актуальныя праблемы беларускай мовы ў навуцы, у грамадскім жыцці, у рэлігіі. Нешта змянілася ў нас за гэты час: зарэгістравана Таварыства беларускай мовы, у школах пачалі адкрывацца беларускія класы, прыняты закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы.

Таксама адбыліся змены і ў рэлігійным жыцці Беларусі. Праваслаўная царква ў нас стала называцца Беларускай праваслаўнай на чале з экзархам усяе Беларусі Мітрапалітам Філарэтам. У Жыровічах аднавіла дзеянне праваслаўная семінарыя. Там ёсць беларускамоўныя класы. З'явіліся новыя праваслаўныя эпархіі на Беларусі.

Адбыліся за гэты час змены і ў каталіцкай царкве. Па-першае, мы маем свайго Апостальскага Адміністратара дыяцэзіі Мінскай у асобе біскупа, ксяндза Тадэвуша Кандрусевіча, якога пазначыў і высвеціў на біскупа Папа Ян Павел II.

Больш таго, яго Светласць Папа Рымскі Ян Павел II у час кансэкрацыі прамаўляў першы раз у гісторыі Ватыкана на беларускай мове да нашага біскупа. І сам

Працяг на с. 12

*Кузьма ЧОРНЫ*

# НЕБЕЛАРУСКАЯ МОВА
# Ў БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Вялікая беларуская моўная стыхія не толькі не загінула за час шматвяковага нацыянальнага падняволення Беларусі, не толькі не была праглынута моцнымі культурамі суседніх народаў, а захавала сваю чыстату, скрышталявалася ў надзвычайнае багацце арыгінальных формаў, служачы нават багатым матэрыялам для суседніх моўных культур. Беларуская мова — мова беларускіх казак і песень, фразеалогія народнае гутаркі — гэта найглыбейшая самабытнасць і харастcovo.

Сіла самабытнасці слова разбурае ўсе спробы іншых моўных культур залічыць якую-небудзь мову ў свае «наречия». Гэта даведзена якраз прыкладам з беларускаю моваю. А чым больш нацыянальных асаблівасцей мае гэтая культура, тым больш гэта ўзбагачае тыя нацыянальныя элементы, з якіх ствараецца агульная чалавечая культура.

Усё гэта даўно вядома. Але ўсё гэта даводзіцца прыгадваць з тае прычыны, што мы перажываем асаблівую пару ў развіцці нашае культуры. З аднаго боку — яшчэ і цяпер не зусім змоўклі галасы некаторых акадэмікаў і дацэнтаў пра «наречие». З другога боку — павінны быць створаны беларускія вышэйшыя формы беларускай культуры. І тут паўстае найвялікшае пытанне мовы. Бо каб гэтыя «вышэйшыя формы культуры» былі і вышэйшымі і беларускімі, няйначай трэба, каб яны былі сапраўды ў беларускай мове.

Беларуская жывая літаратурная мова перажывае цяпер пару свайго фармавання. Дык трэба, каб усе ўсвядомілі, якую вялікую гістарычную адказнасць жыццё ўсклала на літаратараў, гэтых адзіных творцаў жывога кніжнага слова. А тым часам частка літаратараў, трэба думаць, не зразумела сваіх задач у моўным пытанні, мусіць, не адчувае на сабе гэтае адказнасці. Бо траха не ўсе нашы часопісы і газеты, а таксама творы некаторых пісьменнікаў выходзяць у свет у гэтакай мове, якую можна назваць сапраўды толькі «наречием». Фразеалогія гэтае мовы зусім не беларуская. Гэта фразеалогія той мовы, стыхія якое пануе ў аўтара, на якой у аўтара працэс думання. Гэтая з'ява, якая не толькі не слабее, а набывае памеры нястрыманай навалы, цяжкім каменем загароджвае дарогі і развіцця беларускае культуры.

У «Узвышшы» № 2 за 1927 г. Уладзімір Дубоўка ў сваім артыкуле «Пра нашу літаратурную мову» ўспамінаў адзін верш, які напісаны нібы ў беларускай мове, але ў якім усяго некалькі беларускіх слоў. Верш з гэтакімі тэрмінамі, як «лунныя лапы»... Гэтыя «лунныя лапы» ўсё больш і больш пускаюць карані, усё больш і больш імкнуцца запанаваць цалкам у нашай літаратурнай мове. Гэтая навала робіць справу змагання з беларускаю культураю і яе льга выкараніць толькі тады, калі нашы літаратары стануць тут свядомымі і дзейнымі, калі яны адчуюць усю сваю адказнасць. Бо іначай, побач з крышталяваннем нашае літаратурнае мовы, гэтая навала будзе ўсё ўмацоўвацца і загароджваць дарогі літаратурнай культуры. Гэтае злачынства цалкам ляжа на сумленне тых літаратараў, якія сталі на працу як бы дзеля таго, каб патаптаць і знішчыць тое моўнае багацце, якое Беларусь збірала і ахоўвала ўсе доўгія вякі свае падвойнае няволі.

Возьмем з першае, якая апынулася пад рукамі, расійскае кнігі кавалак тэксту. «По утрам солнце светило мне сквозь двойные решетки. И от него, и от счастливо воркующих за окном голубей хотелось смеяться. Я тихо ходил от стены до стены и сквозь решетки видел весело синеющее небо».

Беларускаю моваю гэта можна гэтак выказаць: «Раніцамі сонца свяціла мне праз падвойныя краты. І ад яго, і ад галубоў, якія шчасліва буркавалі за вакном, хацелася смяяцца. Я ціха хадзіў ад сцяны да сцяны і праз краты бачыў неба, што весела сінела».

Гэта калі цвёрда прытрымлівацца моўнага кірунку ў расійскім тэксце. Ніхто не забараняе выказаць і гэтак:

«Па раніцах сонца свяціла мне праз падвойныя рашоткі. І ад яго, і ад шчасліва варкуючых за вакном галубоў, хацелася смяяцца. Я ціха хадзіў ад сцяны да сцяны і скрозь рашоткі бачыў весела сінеючае неба». Тут справа вельмі простая. Для таго чалавека, у якога моўнае думанне не беларускае, а расійскае, гэтакім жаргонам куды лягчэй пісаць, чымся беларускаю моваю. Дык гэтак і пішуць. І лічаць, што гэта беларуская мова, і ніколі ім не ўзбрыдзе нават на думку, што творы, якія напісаны гэтакаю моваю, ёсць творы па форме расійскія, а не беларускія; але расійская непісьменныя, бо на расійскай мове, напрыклад, не «сінеючых», не «рашоткі», не «варкуючых», а «синеющих», «решетки», «воркующих». У беларускай жа мове гэтакіх формаў зусім няма. Дык расійцы маюць права лічыць гэта сваім «наречием». Але ўсё ж «наречия» гэтакага расійская мова не мае; абсалютна не мае гэтакіх формаў і беларуская мова. Формы гэтыя ёсць раўналежныя расійскім; такім чынам, гэта ёсць расійская мова зусім непісьменных аўтараў. Іначай гэтую з'яву ні растлумачыць, ні апраўдаць нельга...

Мова — жывая істота. Яна жыве, а не існуе. Адным словам можна вельмі шмат выказаць, або тым жа самым словам нічога не сказаць. І гэта нават можа быць ад таго, як гэтае слова вам гаварыць. Напрыклад, можна сказаць: «Ты не ведаеш». І можна сказаць: «Вельмі ты ведаеш!» Выказана тое самае, але другі раз — мацней, нават з адзнакамі кпін. Але нашым літаратарам гэтае моўнае багацце не абыходзіць. Вывучэнне мовы — гэта, кажуць, задача лінгвістаў, а пісьменніку трэба ставіць праблемы, «адбіваць сучаснасць». Але мала хто думае, што для гэтага патрэбна нейкая, калі льга так сказаць, рэчаіснасць, нейкі матэрыял. Усякі ж ведае, што з дрэннага матэрыялу нават кашаля не спляцеш, не то што якога-небудзь твора.

Жонка Льва Талстога ў сваім дзённіку пісала, што Л. Талстой ніколі не пакідаў, да канца жыцця свайго, вучыцца расійскай народнай мове. «Считая свой язык русский далеко не хорошим, не полным, Л. Н. поставил целью своей в это лето изучить язык в народе. Он беседовал с богомольцами, странниками, проезжими и все записывал в книжечку народные слова, пословицы, мысли, выражения». (Занатавана 31 студзеня 1881 г.)...

Я працую ў рэдакцыі «Беларускае вёскі», і мне даводзіцца чытаць вельмі шмат допісаў з вёскі і літаратурных твораў маладых вясковых аўтараў. Дык я на выразных прыкладах бачу, як друкаванае слова псуе пісьменнасць моладзі, забівае ўсю яе прыродную чуласць да мовы. Адзін аўтар пісаў у рэдакцыю: «Паважаная рэдакцыя! Я прашу, каб вы надрукавалі маё гэтае апавяданне ў «Чырвоным сейбіце». Можа яно і не варта гэтага, дык я прашу, каб вы папраўілі яго. А калі і гэта не паможа, тагды напішыце мне, чым маё апавяданне нягод-

нае, каб я другі раз ведаў як лепш пісаць. Гэтыя маркі я шлю вам на адказ»... і г. д. Відаць было, што піша чалавек пісьменны. Ліст гэты ён напісаў жывою моваю, бо гэта аўтар гаварыў з рэдакцыяй. Але тое, што ён пісаў для друкавання, не мела і заваду жывое мовы. Гэта была самая сапраўдная кніжная выдуманая мова. Апавяданне тое пачыналася гэтак: «Заходзячае сонца чырвонымі праменнямі аблівала захад. Вецер распаўсюджваў пах кветак. На цямнеючых балотах заціхалі птушкі, і ў хуткім часе наступіў вечар»... І далей падобна да гэтага. Якраз выходзіць, што для хатняе гутаркі, на абыходак у жыцці ёсць адна мова, свая. Але для кніг павінна быць нейкая іншая мова. Бо калі дома чалавек гаворыць «я хадзіў па сена», дык у кнігах ён чытае: «я хадзіў за сенам». І вядома, што будзе вучыцца пісаць паводле таго, як ён чытае ў кнігах.

На вялікі жаль, усё гэта праўда. Калі ён піша ў рэдакцыю ліст, дык ліст гэты напісаны па-людску. А калі пачытаеш тое, пра што ён піша ў лісце — яго літаратурны твор — дык у творы гэтым жаргонная плынь выпіхае жывую мову...

...«Наогул, нашым сучасным выданням бракуе пэўнай стылістычнай апрацоўкі — рэдакцыі. Тут ясна, што сам аўтар не можа быць рэдактарам сваіх твораў. Думаецца, што пры наладжанай стылістычнай рэдакцыі шмат якія творы, што цяпер выкідаюцца Дзяржаўным Выдавецтвам без абы-якой рэдакцыі, мелі б больш адшліфаваны, гожы выгляд»... («Полымя», № 7 за 1927 г., бал. 254).

Дзе гэта ёсць, каб культурны пісьменнік дазволіў каму-небудзь правіць стыль і мову свайго твора? Стыль і мова — гэта ж выяўленчыя мастацкія сродкі пісьменніка. Ніякіх жа стыляў тады не будзе, а будзе «наогул». І хоць шмат таго, што друкуецца ў некаторых вашых «тоўстых» часопісах, пускаецца на ўзвей вецер, усё ж гэтая прапанова паказвае на ўзровень культурнасці ў некаторых нашых інстытуцыях, што падручыліся фармаваць вялікую культуру гушчаў беларускіх сялян і рабочых. І як далёка яны асталіся ад гэтай культуры!..

Літаратурная мова павінна быць моваю чыстаю, беларускаю. Карэнні яе — у мове народнай. Літаратары павінны навучыцца моўна думаць па-беларуску. Яны павінны абудзіць у сабе або пастарацца ўспрыняць (калі не давялося мець яе змалку) беларускую моўную стыхію. Бо калі гэтага не будзе, яны будуць, як і цяпер, шкодзіць нацыянальнай форме культуры. Беларуская фразеалогія ў беларускай літаратурнай мове будзе спрыяць вырашэнню праблемы беларускага стылю нашае паслякастрычніцкай літаратуры.

*Кузьма Чорны. Збор твораў у васьмі тамах. Том восьмы. Мн., 1975.*

# СЛАВЯНСКІЯ РУЧАІНЫ

**З 24 па 27 траўня 1990 года на Беларусі праходзіла Усесаюзнае свята славянскага пісьменства і культуры. Сярод гасцей свята былі вядомыя савецкія, а таксама замежныя пісьменнікі, да якіх мы звярнуліся з просьбай адказаць на два пытанні:**

**1. Што Вы думаеце пра лёс беларускай мовы і культуры?**

**2. Якія пачуцці авалодалі Вамі ў дні Свята славянскага пісьменства, культуры на беларускай зямлі?**

Васілій БЯЛОЎ:

Становішча яе калі не трагічнае, то досыць драматычнае, як драматычнае становішча ўсіх іншых моў, не выключаючы рускай, напрыклад, ці нямецкай. Галоўны вораг нацыянальнай мовы — урбанізацыя, нівеляванне працы і побыту. Выратаваць мову, як мне ўяўляецца, можа толькі сялянства. Але дзеля гэтага трэба выратаваць само сялянства.

Адчуў паўнакроўнае пачуццё радасці... Адчуў і пачуццё гаркоты. Святу толькі пяць гадоў. Мы так запазніліся.

Валерый ШАЎЧУК:

З'явілася спадзяванне, што беларускі народ прачнецца ад цяжкага сну — менавіта гэта здолее даць сілу і энергію беларускай мове і літаратуры. Хачу верыць у яго светлую будучыню, але светлая будучыня сама не прыходзіць, яе трэба атрымаць у барацьбе і дасягнуць агульнай нацыянальнай працай.

Я рады, што свята славянскага пісьменства стала святам менавіта беларускага народа, што славянскія ручаіны цякуць не для таго, каб яны зліліся ў агульным (чытай рускім) моры, а сталі самастойнымі рэкамі. Я сёння і адчуў гэтую вялікую беларускую раку. Светлую і чыстую!

Сакрат ЯНОВІЧ:

Грамадскае становішча роднай мовы даведзена ўжо да такога ўскраю, што яе далейшы лёс вырашыць толькі палітыка. Сама яна, наша мова, абароніцца,— гэта так,— але не болей як з'ява, культурная і лінгвістычная, з маргінальным існаваннем на абочыне ўсенароднага жыцця ў БССР.

Тым не менш я аптыміст. Чаму? Бо лічу, што бег палітычных зменаў у гэтым рэгіёне Еўропы проста прымусіць Беларусь стацца Беларуссю, а беларусаў — беларусамі. Прысуд гісторыі! Усе суседзі Беларусі робяцца сабою, суверэнамі, дык якая ж магчымасць далейшага трывання беларускага арэалу ў сённяшнім безабліччы? Закон аналогіі задзейнічае. Беларусь у пaслястаражытныя часы прачнулася апошняй, яе потым моцна прыбілі, і яна зноў — таксама апошняй — устане з каленяў. А гэта значыць, і мова яе, бо ж не датла затаптаная, не высушаная ў кніжнае, гербарнае экспанацтва.

Пачуццё раздвоенасці. Святкуюць, папраўдзе, інтэлектуалы. Людзі вуліцы не вельмі ведаюць, у чым тут справа і дзеля чаго гэткі вэрхал... Грамадства непадрыхтаванае ні інтэлектуальна, ні эмацыянальна. Зноў «вярхі» прыдумалі сабе фэст, то і няхай...

І яшчэ адно: чаму гэтае Свята — усесаюзнае? Няўжо Беларуская ССР як дзяржава — член ААН, не была ў стане самастойна арганізаваць яго? Скажам, пад эгідай ЮНЕСКО. Усеславянскае кірыламяфодзіеўскае свята ў Беларусі — гэта было б куды больш маштабна, чымсьці ўсесаюзнае. Праўда, лічу яго даволі ўдалым, але і да крыўднага нявыкарыстанай нагодай замахнуцца ў Менску на еўрапейскую імпрэзу...



Удзельнікі Свята славянскага пісьменства і культуры на Беларусі Ніл Гілевіч, Васілій Бялоў, Валянцін Распуцін, Іван Чыгрынаў.

Фота Ул. Крука.

Анатоль КЛЫШКА

# НА АДНОЙ НОЦЕ

Памятаю, у «Юнацтве» рыхтавалася да друку аповесць маладога, хоць і ў гадах, аўтара (толькі ў літаратуры, відаць, даецца такое шчасце — не старэць!). У рукапісе я налічыў 137 ля. Нават каля і то рэдка сустракалася. Калі якую старонку шчасліва і абмінала ля, то затое на іншай іх траплялася некалькі. Ледзь не ўвесь набор беларускіх прыназоўнікаў у аўтара звёўся да аднаго прыназоўніка...

Вядома, ужываючыся найчасцей пры абазначэнні асобы, прадмета, месца, паблізу або вакол якіх што-небудзь адбываецца, размяшчаецца і г. д., прыназоўнік каля (ля) ужо гэтым самым можа падмяняць, але ў пэўных выпадках, мноства іншых — пры, побач, поруч, збоку, над, пад, перад, па-над, ускрай, край, паўз, бліз, блізка, паблізу, побліз, поблізу, а там — закруціліся колам розныя вакол, вокал, навакол, навокал, навокала, наўкол, наўкола і г. д.

Але ці трэба згадваць, што, пішучы, кожны аўтар павінен бачыць, ці мэтазгодна такая «падмена», ці не лепшы больш «канкрэтны» прыназоўнік. Нават з гукавога боку. Скажам, «ішоў каля лесу» і магчлівыя паўз лес, ускрай лесу і г. д.

Што ўжо казаць пра пісьменніцкі жывапіс, які якраз вымагае яскравага бачання, уяўлення і адпаведнага ў творы ўвасаблення, узнаўлення ці стварэння жыцця! Бо як жа пісьменніцкая пластыка можа абысціся ледзь не адзіным — на ўсе выпадкі — такім каля ці ля!

Аднак жа як часта ў нашых умовах здараецца, што беларускія прыназоўнікі грунтоўна падзабыліся (а каму і не чуліся зусім, бо каб забыць, трэба хоць некалі было ведаць), а багацце рускіх прыназоўнікаў як след не асвоілася. І адбываецца мена беднаты на галечу. Шчопці няяк агораных рускіх прыназоўнікаў замяняюцца на бясфарбнае каля, а то і канчар яго — ля.

Замроілася рускае около і па-беларуску пішацца каля (ля), усплыло возле і першае, што прыходзіць на памяць пры перакладзе, зноў жа каля (ля), бо толькі такую замену прыназоўніка возле і дае апошні «Русско-белорусский словарь». Згадалася рускае «у» і тут жа зноў каля... Не, тут толькі ля. Бо пісаць доўгае каля як бы і не з рукі. У кароткага слова (у) лепш хай будзе і кароткі адпаведнік. Значыцца, не каля, а ля.

Лянота думаць і таму ля, лянота напісаць цалкам каля і пішам на склад карацейшае ля.

А замяніць пры перакладзе тое ж у на пры — вялікі клопат думкі. От калі б у рускім тэксце было при, тады і па-беларускую напісалася б пры. А тое, што ўжыванне гэтых, здавалася б, аднолькавых прыназоўнікаў даволі адметнае ў рускай і беларускай мовах, не бярэцца пад увагу. Скажам, у значэнні непасрэднай блізкасці да чагосьці прыназоўнік при ў рускай мове ўжываецца куды радзей, пераважна (дый таксама нароўні з у) са словамі вход, въезд, впадение, слияние (рек), дорога.

Звычка механічна перакладаць рускі прыназоўнік у беларускім ля прыводзіць да кур'ёзаў.

Сын, які жыў «у родителей» — пры бацьках, з бацькамі — у беларускім тэксце раптам жыве «ля (каля) бацькоў»; з самаволі перакладчыка адсяляючыся і параскалоўшыся ў суседа.

Чалавек «у рояля» апынаецца не «за раялем», а «ля (каля) раяля» і — мяркуйце самі — як яму тады іграць... Так і хочацца адаслаць такога перакладчыка да самага звычайнага слоўніка: не палянуйся, браце, з карысцю для сябе паглядзець яго.

Бо той, які мые рукі па-руску «у крана», робіцца дзіваком, калі мые «ля (каля) крана». У апошнім выпадку, праўда, і двухтомны «Русско-белорусский словарь» яму не падкажа падсунуць рукі пад кран, бо такога адпаведніка (пад) у рускага прыназоўніка у ў гэтым слоўніку няма.

І, да прыкладу, «остановиться у двери» гэта не толькі, як перакладае гэты ж слоўнік, «спыніцца каля (ля) дзвярэй», але і — у пэўных акалічнасцях — «пры дзвярах», і «перад дзвярыма», і «пад дзвярыма».

Бо трэба зважаць на тое, што перакладаеш, бачыць, што адбываецца. Каб узнавіць рускі выраз «мылся у умывальника», трэба ведаць, што гэта быў за ўмывальнік: пасудзіна з кранам — тады «пад умывальнікам», а калі ракавіна з кранам, то «над умывальнікам».

Дарэчы, і, прыблізна абазначаючы колькасць, таксама доўга не думаючы, ужываюць толькі каля. Колькі ў апавяданнях бачыш мужчын каля сарака, дзядоў каля сямідзесяці гадоў. Як быццам у нас забылася, што добра перадаецца такая прыблізнасць яшчэ і прыназоўнікам пад: пад сорак гадоў, пад семдзесят.

А нядаўна мне давялося ў газеце сустрэць удаву «ля (!) васьмідзесяці гадоў».

Няшчасная жанчына — і мужа няма, а побач — аж і ўявіць цяжка — ляжаць, з ласкі аўтара, гэтыя ўсе яе ледзь не восемдзесят гадоў, бо толькі так і можна разумець чытанае: ля значыць побач, поруч, збоку... У значэнні прыблізна з лічэбнікамі, як гэта можа рабіць каля, яно не ўжываецца.

...Гучыць і гучыць ля, ля, ля. Аднастайная, зацяганая нота ля. А з аднае ноты багата музыкі не складзеш.



## НЕ СКЛАНЯЕЦЦА?

Дзіўна мне чуць, што ў беларускай мове жаночыя прозвішчы тыпу Бандарэнка, Пархоменка, Ажэшка,— не скланяюцца.

Як жа не скланяюцца, пярэчу я аўтарам граматыкі, калі яны скланяюцца. От паслухайце:

Н. Бандарэнка, Пархоменка, Ажэшка.
Р. Бандарэнкі, Пархоменкі, Ажэшкі.
Д. Бандарэнцы, Пархоменцы, Ажэшцы.
В. Бандарэнку, Пархоменку, Ажэшку.
Т. Бандарэнкай, Пархоменкай, Ажэшкай.
М. Бандарэнцы, Пархоменцы, Ажэшцы.

— Ну, што? Скланяюцца?

— У вас скланяюцца, а ў нас не,— адказваюць мне з алімпійскім спакоем аўтары граматыкі.

Згадзіцеся, гэтая наша размова нагадвае, калі пра белае кажуць чорнае, а пра чорнае — белае. Мне няўклюдна казаць і пісаць: «Я прыехаў да Ажэшка. Мы напаткаліся з Бандарэнка». А вось нашым стылістам ды карэктарам да гэтага хоць бы што. Яны цвёрда трымаюцца аднаго: беларускія народныя прозвішчы на «ка» не скланяюцца. Так, маўляў, запісана ў граматыцы. І ўсё тут. З гэтай нагоды хацелася б прыгадаць адзін анекдот, надрукаваны нядаўна ў «Чырвонай змене».

«Брэжнеў на дыпламатычным прыёме чытае з паперкі:

— Паважаная пані Індзіра Гандзі!..

Яму хтосьці шэпча:

— Ды не Індзіра Гандзі, а пані Тэтчэр!

Брэжнеў ціха адказвае:

— Ды я і сам бачу, што Тэтчар, ды напісана ж Гандзі!

І зноў гучна чытае:

Паважаная пані Індзіра Гандзі!»

Дык што будзем далей рабіць? Жыць і працаваць па ўзору брэжнеўскіх прынцыпаў ці дамо прастору жывой моўнай стыхіі?!

Дарэчы, і анекдот пра Брэжнева, і правіла беларускай граматыкі, паводле якога беларускія жаночыя прозвішчы на «ка» не скланяюцца,— з адной пары, з аднае эпохі бяздумства і прыстасавальніцтва.

Уладзімір СОДАЛЬ.

Генадзь ДЗМІТРЫЕЎ

## СВЯТА СЛАВЯНСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І КУЛЬТУРЫ. НОЎГАРАД, ЛЕТА 1988.

Пане Вялікі Ноўгарад! —
Палёт купалоў і мастоў.
Дзевяць магутных метраў
Культурных славянскіх пластоў.
Дзевяць глыбокіх метраў —
Стагоддзяў сівых карагод.
Дзевяць высокіх метраў
Славы тваёй, народ...
...Каторы раз чыноўнік трактуе,
Нібыта круціць
кружэлку зайграную:
— Валянціна Пархоменка?
Не чулі такую.
Не прадугледжана
культурнай праграмаю!
Нямеюць праведна
і знясілена
Вочы твае
наіўна-сялянскія.
Валянціна Васілеўна!
Даруй чыноўніку —
неславянскае...
Пане Вялікі Ноўгарад! —
Сумлення славянскага твар.
З бярвення спрэс маставыя
І з чалавечых ахвяр.
Сцелецца ён і сёння —
Дзесяты
культурны пласт.
Звон вечавых званоў.
Раўнадушша баласт...
Па над Волхавам — поўня,
быццам
Непрыкаяная душа.
Валянціна Васілеўна!
Дай напіцца
З паляшуцкага гладыша.
Слухай, Вялікі Ноўгарад!
Вочы прымруж, Баян. —



Спявае заслужаная артыстка Беларусі Валянціна Пархоменка.

Фота Ул. Крука.

Над Крамлёўскім паркам,
над горадам
Непадуладная, гордая
Занялася песня славян.
Паплыла, залунала —
вольная,
Велічная, як здавён.
На Крамлёўскіх званіцах
Рэхам азваўся звон...
Ці дойдзе ён
да пэўных высноў —
Чын
у цішы кабінета-схованкі:
Прарвала
песня Валянціны Пархоменкі
Дзесяты метр
культурных пластоў.

Уладзімір ПАЎЛАЎ

## НАРОД, ПАЧУЙ!

*Роднага ж краю тутэйшыя людзі*
*У скуру чужацкую лезуць жыўцом.*
*Янка Купала*

Клёкат горных арлоў, шолах стэпавых
траў —
У напевах, што селі за братні абрус.
Ну, а ты што маўчыш, як вады ў рот
набраў,
Чаму песні свае не пяеш, беларус?
Можа, іх твой народ не складаў, не пяяў,
Можа, радасці, болю не знала зямля?
— Не, народ мой араў, цвёрда меча
трымаў,
Але песням яго не навучаны я.
Калі ў Мінску гавораць араб ці індус —
Гэта звыкла, як чуць птушанят у расе.
Калі ж я слова моўлю —
«Глядзі — беларус!»—
На мяне азіраюцца здзіўлена ўсе.
Дзіцяня хоча кніжку ў малюнках купіць
І з надзеяй працягвае к ёй ручаня.
«Это на белорусском», — адвада сіпіць,
Быццам тым пракажоная кніжка мая.
Як жа сталася так?!
Меўшы герб свой і сцяг,
Партызанскую славу і месца ў ААН,
Мы — нібыта не дома, а недзе ў гасцях
І нам брат— той, што выракся роду, Іван.
У Вярхоўным Савеце — народны паэт,
І народны артыст, і народны мастак.
А з бяспамяцтва нашага дзівіцца свет.
Адкажыце народу: як сталася так?
А ці тое вы сеялі ўсе на сяўбе,
Калі мову народа пускалі на звод?
Ці мо кожны найперш клапатаў пра сябе —
У чыноўнай абласцы стараўся выгод?!
Нешаноўна-саноўныя знаюць мужы:
Беларуская мова дайшла да мяжы,
Са знікненнем якое знікае народ...
А яны — зноў з наццэмаўскім кляпам на
рот.
Ад мястэчка да Мінска — няма і надзей —
Роднай мове у школе не стала жыцця.
А пра росквіт яе ўсё крычыць «дабрадзей»,
Што па-сталінску ўдарна давёў да
«зліцця».
Трыццаць сёмы нядобрае памяці год,
Як жа прагне цябе ўвесь чыноўніцкі род!
Ды сцвярджаю, што плод без зярняці —
не плод
І без мовы — насельніцтва мы, не народ.

1988

Віктар ШНІП

* * *

За чорным полем белы Замак,
Там мова нашая жыве.
А ля яго, як пекла, крама
І косці белыя ў траве.
Усе спяшаліся здурэла
У краму, як у вечны рай,
Хапалі сала і гарэлку,
Не думалі пра родны Край...
І я пайшоў па чорным полі,
За мной струменіла змяя.
Калі загіну — дык то доля
Такая божая мая.
Мой цень застаўся на узмежку,
Малітвы д'яблавы шаптаў,
І ўслед свяціў гнілой усмешкай
І ў небе д'ябал рагатаў.
І я пачаў маліцца богу,
Ды не пачуў малітвы бог.
Змяя зрабілася дарогай,
Каб я назад вярнуцца змог.
А я — упарты, як дурніца,
Вярнуцца не схацеў назад.
І смеласцю пачаў хваліцца.
Ніхто не слухаў, толькі Гад,
Што вылез з-пад карчоў сатлелых,
Мяне хваліў і ў госці зваў:
— Ідзём са мной, калі ты смелы,
Цябе я цэлы век чакаў!..
...І што было б далей — не знаю,
Калі б не Вецер прыляцеў
І не падняў мяне над Краем.
І ўбачыў я у цемнаце,
Як родныя браты гаруюць,
Як гіне мова і народ,
Як безгаловыя царуюць
І правіць цемрай Ідыёт...
...Ды Вецер сціх і я спусціўся
З нябёс на грэшную зямлю.
Крумкач над чорным полем віўся
І ў дзюбе нёс маю змяю.
І я сказаў: — Браточкі, людзі,
Дакуль жа будзе з мовы здзек...
І чорны гостры нож у грудзі
Загнаў мне карлік-чалавек.

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

## АПОШНІ БЕЛАРУСКІ КНЯЗЬ

А князь не рваўся ў змагары,
З халопам мог быць — князем толькі.
І помню ён: хай свет гарыць,
Але захоўвай гонар продкаў,
Не прызнавай чужынцаў суд,
Не пераймай убораў новых.
І ў мужыка, і ў князя тут —
Адны — зямля, і бог, і мова.
І князь бяднеў, і пагарджаў
Суседзямі, што багацелі.
На паляванне выязджаў,
І у рог трубіў, і трапна цэліў,
І «па-мужыцку» гаварыў:
— Так каралі ў нас гаварылі!
І лірнікаў любіў старых
Пра гераічных продкаў былі.
Іезуітаў гнаць казаў
З сваёй зямлі і ў хвост, і ў грыву.
І да сякернага ляза
Так набліжаўся лёс імклівы.
За вышыню — пякельны ўдар.
За гонар — просты ўдар сякерай...
Хай — феадал, хай — не змагар,
Ён — мову меў, зямлю і веру.
І апалячаным сваім,
І абруселым спадкаёмцам
Нічога ён не даў — акрым
Папрока-памяці бясконцай.

# *QUO VADIS, LINGUA ALBORUTHENICA?*

Новабеларуская літаратурная мова параўнаўча маладая, яе ўласная гісторыя налічвае каля двух стагоддзяў, а характар працэсаў, што адбываліся і адбываюцца ў ёй, тыпалагічна набліжаюць яе да моваў «новых» народаў Еўропы, абуджаных ад нацыянальнага сну ў мінулым стагоддзі. Калі ў літаратурных мовах «вялікіх», «імперскіх» народаў — рускай, французскай, англійскай — ўжо даўно панавалі «дзяржаўныя законы», пільна абераганыя высокімі навуковымі інстанцыямі, дык новыя літаратурныя мовы, як, напрыклад, чэшская, літоўская, эстонская, беларуская, увесь час перабывалі ў стане няспыннае творчасці, увесь час былі «творывам», якое і дагэтуль, асабліва гэта датычыць мовы беларускай, не зацвярдзела і не ўкрылася скарынкаю акадэмічнае ўнармаванасці (спосабы штучнага заўчаснага «зацвярдзення» пакуль што марныя, скарынка тая ўсцяж лопаецца пад ціскам жывое стыхіі).

Гэткі працэс тварэння мовы, калі ён адбываецца натуральна і ў нармальных умовах (умовах дзяржаўнае незалежнасці), складаецца з дзвюх супрацьлегласцяў, што дыялектычна дапаўняюць адна адну — **моваабнаўлення** і **моваўпарадкавання**. Першае выклікаецца аб'ектыўным станам мовы ў пэўным часе — неразвітасцю слоўніка (з-за сацыяльнае абмежаванасці сфер ужытку мовы), адсутнасцю тэрміналогіі, празмернай колькасцю барбарызмаў і г. д. — і палягае ў шырокай моватворчасці, пошуках новых сродкаў выказвання, розных лінгвістычных спробах і эксперыментах. Па пэўным часе настае патрэба «навесці парадак» у сістэме літаратурнае мовы, суняць разбушаваную стыхію мовартворчасці і вызначыць рамкі нармальнага моўнага ўжытку. Першыя спробы моваўпарадкавання прыпадаюць у нас на 1917—1918 гады, калі выйшлі першыя дапаможнікі і працы ў галіне граматыкі і правапісу А. Луцкевіча, Я. Лёсіка, Б. Пачобкі, Я. Станкевіча і Р. Абіхта. Улічыўшы дасягненні і пралікі гэтых аўтараў і абагульніўшы ўвесь новабеларускі моўны досвед, выдаў сваю граматыку Браніслаў Тарашкевіч.

Усталяванне кадыфікаванае граматычнае нормы дазволіла разгарнуць шырэй культурна-асветную дзейнасць і найперш — беларускае школьніцтва. Разам з тым гэта вызваліла рукі моватворцам: граматыка ўжо напісана, цяпер можна яе ўдасканальваць, спрачацца з ёй, прапаноўваць сваю.

Накірунак мовартворчых пошукаў у немалой ступені залежыць ад культурна-палітычнае арыентацыі. У рэальнай геапалітычнай сітуацыі Беларусі, пры пагрозе рускай або польскай моўнай асіміляцыі, найбольш плённай трэба лічыць «абапіранне на ўласныя сілы», што прадугледжвае найперш пошукі ў надзвычай багатай старабеларускай пісьмовай спадчыне, максімальнае выкарыстанне дыялектнае лексікі, стварэнне новых слоў з наяўнага моўнага матэрыялу, а калі няма іншага выйсця — запазычанні з іншых моў. Калі моўны пурызм і выглядае смешным ды недарэчным у даўно ўнармаваных мовах, дык для новых літаратурных моваў гэта з'ява нармальная, звычайная і нават неабходная ў якасці сродка супрацьстаяння асіміляцыі.

Актыўную дзейнасць у гэтым кірунку распачаў на пачатку нашага стагоддзя яскравы прадстаўнік нацыянальнага рамантызму і «гістарызму» ў мове, кнігар і архівіст **Вацлаў Ластоўскі**, які паспеў увасобіць свае погляды на мову ў «Падручным расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку» (Коўна, 1924), што не страціў папулярнасці і да сёння. У прадмове да слоўніка выкладаецца своеасаблівы маніфест змагання за чысціню і самабытнасць беларускае мовы: «Адраджоная наша мова павінна стацца добрым правадніком культуры, а гэткай яна зможа быць толькі тады, калі ў ёй будзе найменш чужых слоў, калі кождае паняцьце будзе перакладзена згодна псыхіцы нашай мовы; калі формы слоў і будова сказаў будуць адпавядаць законам гармоніі, пераказаным нам ад нашых прапрашчураў. Мова — гэта абліччa душы народу, і гэтае абліччa народнай душы нельга брыдзіць прылепкамі і наклейкамі, а наадварот, чым яно будзе чысьцейшым, тым прыгажэйшым і здаравейшым... Наша мова тады толькі здолее разьвіцца, калі патрапіць выявіць сваю выразна зарысаваную індывідуальнасць, а гэтым самым дакажа рацію свайго істнаваньня і калі патрапіць абараніцца ад асыміляючага ўплыву суседніх грамадных народаў: Расійцаў, Палякаў, Украінцаў. Дзеля гэтага трэба памятаць, што кождае чужое слова занесенае ў мову, асымілюе, зьлівае мову з суседскай, забівае яе асобны характар, а таму трэба, асабліва пішучы, высьцярагацца ўжываць сходныя з суседскімі словамі, хоць-бы яны і былі ў мове, а браць такія, якіх няма ў чужынцаў, але істнуюць у здаровай нашай народнай стыхіі... Народ наш захаваў яшчэ такое вялікае багацьце слоў, зваротаў і выславаў, цалком арыгінальных і ў дадатку нікім дагэтуль не заграбленых, што без вялікіх трудоў можна яшчэ мову нашу збагаціць тысячамі слоў, цалком самаістых, якія могуць лёгка заступіць накінутыя нам чужыя словы...»

У 20-я гады далей развівалася моваўпарадкаванне ў абедзвюх частках падзеленае Беларусі. У Заходняй Беларусі стрыжнем нормы была граматыка Тарашкевіча, а ў БССР мову вучылі па падручніках Язэпа Лёсіка. Наладзілася выданне слоўнікаў, сярод якіх варта адзначыць «Расійска-беларускі слоўнік» С. Некрашэвіча і М. Байкова (Менск, 1928). Гэты слоўнік падсумаваў моўныя пошукі 20-х гадоў, зафіксаваўшы найбольш вартыя і жыццяздольныя моваабнаўленчыя знаходкі (напрыклад, матэрыял зборнікаў «Беларускае навуковае тэрміналогіі», выдаваных Інбелкультам). Важнаю вехай у развіцці беларускае літаратурнае мовы сталася Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу (1926), якая, аднак, не здолела вырашыць усіх праблем, што сталі перад нашым мовазнаўствам. Справа канчатковага ўнармавання мовы адкладалася на няпэўны тэрмін.

Якраз гэтым часам у беларускім мовазнаўстве з'яўляецца яшчэ адна цікавая і неардынарная постаць — **Янка Станкевіч**. Сваю дзейнасць на гэтай ніве ён пачаў яшчэ ў 1918 годзе, выдаўшы ў Вільні «Новы лемантар для беларускіх дзетак», «Беларускі правапіс» (разам з А. Луцкевічам) і ў Брэславе — «Просты спосаб стацца ў кароткім часе граматным» (з Р. Абіхтам). У 1926 годзе ён вяртаецца ў Вільню з Прагі, дзе атрымаў на Карлавым універсітэце доктарскую ступень. Захоплены старабеларускім пісьменствам і кітабамі, цікаўны да жывога народнага слова і ахвочы да смелых моватворчых пошукаў, ён стае ў апазіцыю да ўсіх дзейных на той час граматык і правапісаў і стварае сваю арыгінальную моўна-гістарычную тэорыю дый нават «сваю» мову. Пачынаючы ад 20-х гадоў і да канца жыцця моўныя «дзівосы» Я. Станкевіча, у якіх ён часам пераступаў меру, выклікалі ў беларускім асяроддзі насмешкі, кпіны, пародыі і карыкатуры. Аднак ён не думаў адступаць ад сваіх пазіцый, а пушчаныя ім у свет словы памалу прыжываліся, як тое слыннае «спадар». Янка Станкевіч практычна стаўся прадаўжальнікам справы Вацлава Ластоўскага, дбаючы пра гістарычнае багацце і «апрычонасць» (самабытнасць) беларускае мовы. (Памёр Я. Станкевіч у 1976 годзе ў ЗША, пакінуўшы па сабе, сярод іншага, дзве вялікія працы, якім аддаў значную частку свайго жыцця: адзіны дагэтуль поўны пераклад Біbліі на беларускую мову (1973) і вялікі «Беларуска-расійскі слоўнік» (выдадзены пасля смерці аўтара ў 1990 годзе)).

У канцы 20-х гадоў над Беларуссю, дакладней — над усходняю яе часткай, навіслі чорныя хмары. У 1929—1930 гадах быў фактычна растаптаны суверэнітэт дагэтуль нібыта «незалежнай» савецкай рэспублікі, пракацілася хваля рэпрэсій, скіраваных супраць нацыянальна-культурных кадраў, у выніку чаго амаль усе беларускія мовазнаўцы і вялікая колькасць настаўнікаў беларускае мовы апынуліся за кратамі або за межамі Беларусі. Былі спынены ўсе мовазнаўчыя даследаванні, у тым ліку праца над слоўнікамі. Дарабіла справу рэформа правапісу 1933 года. Цяжкія наступствы гэтае нацыянальна-культурнае катастрофы мы перажываем яшчэ і сёння, бо менавіта тады згары быў навязаны палітычны курс на барацьбу з беларускім нацыянал-дэмакратызмам (у пазнейшай

тэрміналогіі — буржуазным нацыяналізмам), якраз тады пачало практычна ажыццяўляцца «зліццё» народаў СССР і «збліжэнне» беларускае мовы з рускай, што праз некалькі дзесяцігоддзяў паставіла наш народ перад небяспекаю этнічнае смерці.

Такім чынам, на доўгія гады (ад 1933 і да сярэдзіны 50-х гадоў) натуральнае развіццё нашае мовы было гвалтоўна спыненае. «Моваабнаўленне» і «моваўпарадкаванне» ў гэты час былі, насуперак усялякай логіцы і дыялектыцы, скіраваныя ў адзін бок — да выцяснення з граматыкі, лексікі, сінтаксісу, а ўрэшце нават і з фанетыкі беларускае мовы спецыфічна беларускіх асаблівасцяў і да замены іх рускімі адпаведнікамі. Так склалася тое афіцыйнае беларускае «новамоўе», якім пісаліся і пішуцца газеты, якім гаварылі і гавораць радыё і тэлевізія. Так выгадавалася нашае акадэмічнае мовазнаўства, якое, як гэта ні абсурдна, за гэтыя гады ператварылася ў найстрашнейшую разбуральную сілу, скіраваную супраць беларускае мовы. Так, нарэшце, навучыліся пісаць на «трасянцы» беларускія пісьменнікі.

Аднак дух нашае мовы, глыбока схаваны на дне душы беларусаў, не памёр дарэшты і пры лепшых умовах пачаў аджываць. А ўмовы гэтыя прыйшлі разам з чарговымі палітычнымі паваротамі ў савецкай гісторыі ў 50-х гадах. Пэўныя зрухі адбыліся ў гэтым часе ў афіцыйным мовазнаўстве. Калі ў «Руска-беларускім слоўніку» пад рэдакцыяй А. Александровіча (1937) беларускія словы былі адно транскрыпцыяй адпаведных рускіх слоў, дык у «Руска-беларускім слоўніку» 1953 года, выдадзеным пад рэдакцыяй Я. Коласа, К. Крапівы і П. Глебкі, зазначылася ўжо паступовае вяртанне да народнае лексікі, аб'ектыўна і непазбежна выкліканае хоць бы ўжо вышэйшым навуковым узроўнем гэтае працы ў параўнанні з папярэднімі. 50-я гады адзначыліся ажыўленнем літаратуры, з'яўленнем новых імёнаў, прыходам у яе моладзі, не атручанае таталітарным чадам. З гэтага часу роля літаратуры ў развіцці беларускае мовы непамерна ўзрастае, бо літаратура да самых нядаўных часоў заставалася блізу што адзінаю сферай жыцця, дзе нашая мова жыла і развівалася натуральным парадкам. Рэч у тым, што на Беларусі безумоўна прагрэсіўныя працэсы барацьбы з культам асобы, сацыяльнага і культурнага будаўніцтва ў святле планаў «пабудовы камунізму да 1981 года» звязваліся з непазбежным адміраннем беларускае мовы. Наша краіна была практычна пазбаўлена нацыянальнае школы — найважнейшага фактару нацыянальна-культурнага выхавання. Беларуская мова была выгнаная адусюль, адкуль толькі можна было яе выгнаць, і гэта цяжка параніла і здэфармавала нацыянальную сведамасць беларусаў. Так, у 60—80-я гады нашае грамадства ўсё болей запаўняў безнацыянальны вакуум. Адзіным прыстанкам нацыянальнага жыцця, хоць і знявечанага савецкай ідэалогіяй, заставалася, як ужо было сказана, літаратура. Вось жа адметнаю рысай развіцця нашае мовы ў гэтым часе стаецца супрацьстаянне дзвюх сіл — «моваўпарадкавання», прадстаўленага акадэмічным мовазнаўствам, якое фактычна ажыццяўляла працэс мірнага перарастання беларускае мовы ў рускую і разам з тым даследавала гэты працэс, і «моваабнаўлення», а на самай справе — барацьбы за выжыванне мовы, якую вялі пісьменнікі і нешматлікія прадстаўнікі іншых культурных колаў, супрацiўляючыся таму «перарастанню». Замест цеснага супрацоўніцтва на глебе развіцця мовы паміж мовазнаўцамі і пісьменнікамі ўзмацнялася канфрантацыя, якая прывяла да таго, што мовазнаўцы пачалі абурацца на пісьменнікаў, што яны «засмечваюць» мову дыялектызмамі (як І. Пташнікаў або В. Адамчык) або архаізмамі і «рамантызмамі» (як У. Караткевіч) ды ўвогуле не ведаюць літаратурнае мовы так, як яна выкладзена ў граматыках і слоўніках. З другога боку, акадэмічныя слоўнікі абсалютна непрыдатныя для чытання сучаснае беларускае літаратуры — бо туды ўключаны толькі тыя беларускія словы, якія не замінаюць хутчэйшаму «зліццю» з рускай мовай.

У 80-я гады сітуацыя ўскладнілася яшчэ болей. Вырасла новае пакаленне, збольшага — «дзеці асфальту» (доля гарадскога насельніцтва ўсцяж расла ўсе гэтыя гады), выгадаваныя ў тым безнацыянальным вакууме. Імкненне запоўніць гэты вакуум прывяло да звароту часткі моладзі да беларушчыны. Нацыянальна-культурны рух моладзі, запачаткаваны ў 1980 годзе «Беларускаю Майстроўняй», з кожным годам шырыўся і мацнеў; аж нарэшце пры ўздзеянні новых грамадска-палітычных працэсаў, калі актывізаваліся і папярэднія пакаленні, прывёў да ўтварэння на Беларусі новых палітычных структур — БНФ і іншых грамадска-палітычных аб'яднанняў і суполак. **Характэрнаю азнакаю гэтых структур сталася ўжыванне ў іх асяроддзі беларускае мовы.** Калі яшчэ нядаўна, пачуўшы чыстую беларускую мову ў горадзе, звычайны «нармальны» гараджанін казаў сабе, што гэта, пэўна, пісьменнік, дык цяпер ён дадасць: «...або нефармал». Такім чынам, у нашыя дні назіраецца істотная змена статусу беларускае мовы, прааналізаваць і даследаваць якую цяпер пакуль што не здаецца магчымым.

Мёртвая мова афіцыйнага друку, радыё і тэлевізіі была непрыдатная для жывых зносін, мова вёскі не магла поўнасцю задаволіць гарадскія патрэбы, і таму новыя адраджэнцы ад самага пачатку шукалі сваю мову, абапіраючыся найбольш на народныя традыцыі, на лепшыя творы мастацкае літаратуры (Гарэцкі, Купала, Мележ, Брыль, Караткевіч) і на моўны досвед 20-х гадоў, а апошнім часам і на мову эміграцыі, якая шмат у чым здолела захаваць тое, што з гадамі было страчана на Бацькаўшчыне. Цытаваныя вышэй словы Ластоўскага зноў загучалі вельмі актуальна і абудзілі актыўныя моўныя пошукі. Лексіка штодзённых зносінаў адраджэнцаў усё больш аддаляецца ад запрапанаваных слоўнікам «кофе», «карандашоў» і «стулляў». Дарэформенны правапіс, ужываны адраджэнцамі як нешта само сабой зразумелае, пачаў прабівацца цяпер і на старонкі афіцыйных выданняў. Расхістванне штучнай, ідэалагічна абумоўленай моўнай нормы, распачатае яшчэ ў 60-я гады, дасягнула сёння крытычнае мяжы, што ставіць на парадак дня грунтоўную моўную рэформу. І гэтае новае моваўпарадкаванне павінна стацца не тормазам, а заканамерным і арганічным вынікам рэвалюцыйнага моваабнаўлення апошніх гадоў. Беларуская мова, якая ўчора была моваю вёскі і купкі пісьменнікаў, сёння — мова непадцэнзурнага слова і шматтысячных мітынгаў, а заўтра мусіць стацца дзяржаўнаю мовай незалежнае Беларусі.

Сяргей ШУПА.

# ЧЭРВЕНЬ

*На пясчаных узлесках, папарах, сухадолах, уздоўж дарог расце невысокая шызаватая раслінка з вузкімі шылападобнымі лісцікамі. Яе зеленаватыя без пялёсткаў кветкі не кідаюцца ў вочы. Цяпер яна ўжо, мабыць, адцвіла і відаць толькі плодзікі-каробачкі. Гэта галадок шматгадовы. Іншыя яго назвы — сівец баравы (на Міншчыне), грымотнік (на Гродзеншчыне), дзівана, мурышка, пархун (на Віленшчыне).*

*На карэньчыках галадка жывуць лічынкі чарвяца (лацінская назва гэтага насякомага — парфірафора палоніка), з якіх калісьці выраблялі чырвоную фарбу. Вядома, назбіраць чарвяца трэба было многа, а таму галадок спецыяльна разводзілі на вялікіх палетках. А да таго ж ён добра рос на пяску. Перад Купаллем грамадою ішлі капаць ці рваць галадок, атрасалі з яго карэння ў мяхі чырванаватых лічынак. Пасля іх аблівалі варам, сушылі на сонцы ці ў печы, церлі або малолі, парашок жа размешвалі з аржаным квасам і ў ім кіпяцілі пражу ці тканіну. Такім быў адвечны славянскі спосаб фарбавання ў чырвоны колер. Дарэчы, у XV ст. чарвец быў адзінай сыравінай для атрымання чырвонай фарбы, якую мяхамі і фаскамі вывозілі з Вялікага княства Літоўскага ў Заходнюю Еўропу і ў Турцыю. Пасля гэты гандаль стаў занепадаць, а ў XVIII ст., калі з'явілася фарба з амерыканскай кашанілі, адны толькі палескія жанчыны фарбавалі даўнейшым спосабам.*

Чаму менавіта чырвоную фарбу ўпадабалі нашы продкі?

Вядома, што праслявяне мелі бога — Сонца. За знак-сымбаль Сонца яны абралі касы крыж, які крэслілі ці выразалі на рэчах, аздаблялі яго выявай вопратку, лічачы, што такім чынам аддаюць чалавека, што носіць яе, пад апеку Сонца-бога. Старадаўні ўзор, што яшчэ і цяпер вышываюць на белым палатне ці паркалі беларускія жанчыны, паходзіць з сівой даўніны. Яго прынеслі з сабой нашы продкі, калі перабраліся жыць на зямлю, з якой збіраюць даніну Прыпяць і Нёман. Яны захавалі самыя архаічныя формы ўзору, што сведчыць і пра ранняе вылучэнне нашых продкаў з агульнай індаеўрапейскай сям'і.

Якога колеру мог быць такі ўзор? Ім мог стаць колер Сонца, колер Агню — яго сына. Акрамя ўпадаблення колеру Бога, чырвоны колер арнаменту адлюстроўваў (праз эстэтыку спалучэння белага і чырвонага) псіхалогію і культуру носьбітаў гэтых узораў. Ён увасабляў высокі маральны (белы — колер чысціні) і жыццятворны (чырвоны — колер крыві, без якой не магчыма жыццё, колер моцы, энергіі) стан народу, што стварыў і захоўвае гэты ўзор. У гэтым можна пераканацца, калі ацаніць культуру і дзяржаўны стан Беларусі ў XIV—XV стагоддзях. Тады беларусы не пусцілі на свае землі мангольскай навалы і прагналі крыжакоў, аб'яднаўшыся пад сцягамі з белым і чырвоным колерамі.

Белы колер нашы продкі ўзялі ад пясчанай (белай)зямлі на выспах сярод балотаў. А месяц, калі збіралі чарвяца, назвалі чэрвенем.

Здзіслаў СІЦЬКО.

# Беларускі грамзапіс: SOS!

*Але прыйдзе іх дзень*
*І тутэйшаю мовай*
*Зноў загаворыць род глухіх і нямых...*
*(з рэпертуару рок-гурта «Бонда»).*

І то добра, што мы, беларусы, пачалі ўсведамляць трагічны стан асіміляванага насельніцтва, які быў наканаваны нам сталінска-брэжнеўскай «нацыянальнай палітыкай». Ідэі беларусізацыі, вяртання да сваіх нацыянальных каранёў і мовы лунаюць ужо над нашым народам побач з яго бел-чырвона-белым сцягам. Прыходзіць усведамленне і тых мінімальных патрабаванняў, якія будуць неабходныя для ажыццяўлення гэтай ідэі. Такіх шмат: адраджэнне нацыянальнай годнасці і веданне сваёй поўнай гісторыі, адраджэнне нацыянальнай школы і сістэмы адукацыі... Але сёння я павяду размову пра іншы аспект гэтай праблемы. Тут я маю на ўвазе магчымасць стварэння канкурэнтназдольнай беларускай культурнай прадукцыі — прапаганда беларускамоўных твораў тэатральнага і музычнага мастацтва, выданне папулярных кніг і цікавых падручнікаў, выпуск кіна- і мультфільмаў, тэле-, радыё- і відэапраграм на беларускай мове. І калі, напрыклад, у кнігарні багата што можа зацікавіць нават несвядомага наведвальніка і сваёй унікальнасцю (Статут ВКЛ 1588), і цудоўным мастацкім афармленнем (энцыклапедычны даведнік «Этнаграфія Беларусі»), то вось з беларускай грамафоннай крамы нават самы з нас загартаваны «вываліцца» ў поўнай роспачы...

Стала відавочна, што сваёй бяздзейнасцю і бездапаможнасцю былое кіраўніцтва Міністэрства культуры БССР спрыяла таму, што Беларусь сёння поўнасцю выключана з сістэмы фанаграфічнай прамысловасці краіны: наша «самастоятельная и суверенная» рэспубліка не мае ні студыі, дзе беларускія выканаўцы прафесійна запісвалі б свае шматлікія творы, ні завода па вытворчасці пліт і касет. Прыходзіцца ехаць у Маскву, дзе, дарэчы, не вельмі паважаюць неахайных гаспадароў. Таму на адну беларускамоўную пліту ў нашых крамах прыходзіцца не менш за сотню найменняў рускамоўнай грампрадукцыі. А цяпер асэнсуйце прапорцыі, калі беларускамоўных дыскаў (на травень) налічвалася ўсяго шэсць! Цікава, што нават у сталінскія часы ў Менску існаваў прыстойны завод, які выпускаў пліты. Зараз гэта люстэркавая фабрыка, што каля гатэля «Турыст». А вось сёння, для таго каб выйшла беларускамоўная пліта, трэба дачакацца перасоўнай студыі, якая наведваецца раз у год, хуценька (бо знаходзіцца яна на Беларусі толькі два-тры тыдні) запісацца, дачакацца, пакуль фанаграмы пройдуць праз «рагаткі» некалькіх мастацкіх саветаў, якія зусім не зацікаўлены ў распаўсюджванні «нерэнтабельнай» беларусікі.

Прапаную асэнсаваць і вынікі такіх адносін да нацыянальнай мастацкай спадчыны. У 1987 і 1988 годзе з'явіўся толькі адзін беларускі дыск. Мінулы год нам даў ужо шэсць, а на 1990 запланаваны выпуск васьмі пліт з беларусікай.

Здаецца, прагрэс прыкметны! Але гэта застаецца кропляй у параўнанні з мільённым морам усялякіх «Кіно», «Авіа», «Чорнай кавы» і г. д., якімі заваленыя нашыя крамы... Падчас Свята славянскага пісьменства і культуры на Беларусі мы не ўбачылі ніводнага новага беларускага дыска ў дадатак да тых жабрацкіх шасці, якіх сёння і не ва ўсіх крамах адшукаеш. Манапольная фірма «Мелодыя» ніяк не збіраецца адзначаць і 500-годдзе Францішка Скарыны. Беларускія выканаўцы вымушаны ехаць запісваць свае творы хто ў Амерыку (Барткевіч), хто ў Польшчу (рок-гурт «Уліс»). У адказ на крытыку нашыя функцыянеры ад культуры жаляцца на адсутнасць студыі і іншых умоў, а кіраўнікі фірмы «Мелодыя» ўсю адказнасць за мізэрную беларускую фанаграфію ўскладаюць на сваіх «кампаньёнаў» з Міністэрства культуры БССР. Так замыкаецца бюракратычнае кола. Між іншым грамзапіс — не толькі сродак прапаганды дасягненняў культуры, але і сродак перадачы здабыткаў нацыі нашчадкам. Нацыянальны скарб. Напрыклад, чым бы мы сёння ганарыліся, калі б ва ўсім свеце не запісваліся і не выдаваліся пліты нашага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага? Сёння мы нашым нашчадкам мы пакідаем пліты «Верасоў», «Сузор'я» (хоць у іх і ёсць беларускамоўныя творы), Вайханскіх, Вуячыча і інш., з іх рафінаваным ігнараваннем роднай мовы. Нашыя нашчадкі не без падстаў назавуць гэта злачынствам супраць беларускай культуры. Яны будуць мець рацыю.

У першай частцы сваіх нататкаў я толькі прарысаваў контуры вялікай праблемы нашай культуры. Яна горкая і страшэнна небяспечная сваімі новымі стратамі. І калі мы сёння выбіраем прыярытэты адраджэння нашай культуры, нашай мовы, дык праблема нацыянальнага грамзапісу павінна быць вырашана менавіта прыярытэтна. Так, як гэта даўно зрабілі ў прыбалтыйскіх рэспубліках, дзе пабудавалі і рэканструявалі тры студыі і завод, і адным махам адсеклі адну з пяці галоў страшэннага цмока пад назвай «моўная асіміляцыя», што нясе смерць любой нацыі. Дзіўна, але гэта яшчэ не заўважылі многія з тых, ад каго залежыць сёння лёс беларускай мовы. Сведчанне таму — нядаўняя рэспубліканская канферэнцыя Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны і Міністэрства народнай адукацыі.

Зразумелае жаданне сяброў ТБМ стварыць сеткі нацыянальных навучальных устаноў, інстытут нацыянальнай адукацыі. Але гэтыя імкненні ў рэальнасці могуць застацца на паперы, калі не будзе створана беларускае лінгвістычнае асяроддзе ў запісах. На плітах павінны быць беларускамоўныя навучальныя, літаратурныя і дзіцячыя праграмы, беларускі фальклор і опера, папулярная і інструментальная музыка, патрэбен нават беларускі кіч, якія разам дапамогуць пераадолець мяжу моўнай адчужанасці паміж сістэмай аду-

кацыі і рэчаіснасцю. Усё гэта пачынаецца са сховішча гукаў — з грамзапісу. Між іншым таварыства магло б шмат зрабіць і тут. Напрыклад, паўплываць на Міністэрства культуры БССР, каб яно звярнула ўвагу на беларускамоўных выканаўцаў і кампазітараў і павялічыла мінімум удвая колькасць беларускіх пліт. Падстава для гэтага нядрэнная — Закон аб мовах у БССР.

Трэба наладзіць больш канструктыўны дыялог з кіраўніцтвам фірмы «Мелодыя». Мне здаецца, што спадар Каўка і яго маскоўская сябрына ТБМ з радасцю маглі б дапамагчы землякам у такой важнай справе. Зберажэнне нацыянальнага скарбу павінна стаць клопатам дэпутатаў ад ТБМ у нашым парламенце разам з іншымі неадкладнымі мерамі па культурным будаўніцтве ў рэспубліцы. Ці будзе там пачуты голас беларускіх кампазітараў і выканаўцаў? Як слушна заўважыў на з'ездзе пісьменнікаў Васіль Быкаў, бюракраты і функцыянеры прыходзяць і адыходзяць, а народ, яго мастацтва застаюцца. Яно вечнае. Значыць, і пытанне яго захавання будзе вечнае.

На заканчэнне прывяду вынікі аднаго майго невялікага сацыяльнага даследавання. Неяк пазнаёміўся з тыповым маладым беларусам — гэткім прадуктам сённяшняй безнацыянальнай сістэмы адукацыі. Пра ўсё беларускае — з усмешачкай, пра беларускі рок і слухаць не хоча: маўляў, такога ў прыродзе быць не можа. Але прапанаваў я яму паслухаць толькі адну касету з запісамі рок-гуртоў «Бонда» і «Уліс». І вось які вынік гэтага знаёмства. 60-хвілінная касета з беларускамоўным рокам зрабіла з беларусам цуд — хлопец проста і натуральна пачаў (мо ўпершыню ў жыцці) размаўляць па-беларуску.

Уяўляю сабе, колькі такіх і іншых маладых дзяўчат і хлопцаў вярнуліся б да жыватворных крыніц мовы, калі б маглі набыць у краме пліту унікальнага народнага спевака Р. Марэцкага, запісы аўтэнтычнага фальклору, запісы з «Полацкім сшыткам», беларускімі кантамі і рамансамі, беларускія песні і оперныя партыі Міхася Забэйды-Суміцкага, «Куранты» ў выкананні В. Скарабагатава, пліты з операмі У. Солтана «Дзікае паляванне караля Стаха», Дзм. Смольскага «Францыск Скарына», балетнай і электроннай музыкай У. Кандрусевіча, пліты з беларускімі песнямі Данчыка і Барткевіча, Сокалава-Воюша, Камоцкага, Вольгі Цярэшчанкі. Новых прыхільнікаў у такім выпадку набылі б і рок-кампазіцыі «Бонды», «Мясцовага часу», «Рэя», «Грамады», «Кадэцкага корпуса», «Волі», пліты з запісамі літаратурнай праграмы В. Ласоўскага «Дзень, калі ўпала страла» па творы У. Арлова, кампазіцыя «Час чумы», прысвечаная Міколу Гусоўскаму і Францішку Скарыну, якія ўзмацнілі б цікаўнасць моладзі да гістарычнага мінулага Бацькаўшчыны. Літаратурныя запісы беларускіх народных казак дапамаглі б авалодаць роднай мовай — скарбам, які нам застаўся ў спадчыну. Але ўсяго гэтага сёння мы не маем. Да якой пары? І калі Міністэрства культуры БССР не звяртае ўвагі на праблемы беларускіх слухачоў і выканаўцаў, дык давядзецца звяртацца ў Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, што ідзе да іх пад бел-чырвона-белым сцягам і пад знакам «Пагоні».

Анатоль МЯЛЬГУЙ.

# ГОЛАС ДЗЯЦЕЙ — ГОЛАС БОЖЫ

*Людміла КІСЕЛЬ*

## А я жыву на Беларусі...

А я жыву на Беларусі,
Дзе пушчы, рэчкі і бары,
Дзе раніцай гагочуць гусі,
Дзе песні льюцца да зары.
А я жыву на Беларусі,
Там, дзе і ўся мая сям'я.
Як да матулі прытулюся —
Цяплынь душы адчую я.
А я жыву на Беларусі,
Дзе васількі ў палях цвітуць.
Я беларускаю завуся,
І хай мяне ўсе так завуць.
А я жыву на Беларусі,
На мове матчынай пяю
І ні на крок не адступлюся,
Не здраджу слову я свайму.
А я жыву на Беларусі,
Дзе так прыветна звоніць гай.
І я, паверце, ганаруся,
Што ёсць ён — беларускі край!

Чэрвеньскі раён,
в. Чарнаўцы.

◆

*Васіль ФІЛІСТОВІЧ*

## Прызнанне

Родная мова, ласкавая мова,
Ты, нібы сонца, нас грэеш заўжды.
Родная мова — жыцця аснова —
Шлях свой нялёгкі прайшла праз гады.
Багатая, шчырая, мілая мова,
Цябе ўзгадаваў і ўзнёс мой народ.
Усіх нас чаруе кожнае слова,
У ім — вышыня, ў ім — касмічны палёт.
Люблю гэту мову, што чую у хаце,
Яна мне — дыханне і сэрца біццё.
Яна мне з калыскі, як родная маці,
І словы, і шчасце дала на жыццё.

Вілейскі раён,
в. Вязынь.

◆

*Таццяна ДУБІНЕЦ*

## Матчын дар

Матуля падарыла мне цябе,
Каб у жыццё прыйшла я не нямая,
Святло жыцця данесла да людзей
І каб шчаслівай быць магла я.
Каб радасць зведала і боль перамагла,
Каб не дарма на свеце пражыла.
Хіба ж магу цябе не шанаваць,
Не берагчы, як гонар, дар вясновы?
Хіба ж магу я бесклапотна забываць
Цябе, матулі і народа мова?

г. Дзяржынск.

*Вольга НАСЕННІК*

## Беларуская мова

Цяпер нельга аб гэтым маўчаць,
Закрычаць на ўвесь свет цяпер трэба:
Нельга болей нам мову таптаць,
Бо без мовы жыцце, як без хлеба.
Наш народ слаўны працай сваёй —
Хто не чуў пра здабыткі сягоння?!
Ганарымся мы роднай зямлёй,
Толькі мову сваю не баронім.
Горай-лепей — працуем, жывём,
Стадыёны будуем, палацы,
Толькі песні чужыя пяём,
Быццам здзек — беларускія класы.
А хіба мова горшая ў нас
Мовы рускай ці мовы нямецкай?
Разважлялі ж на ёй тут здаўна
І здавалася мова някепскай.
А цяпер паспрабуй што сказаць
Ты на мове сваёй беларускай —
Так усе на цябе паглядзяць,
Бы гаворыш на мове французскай.
Быццам не ў Беларусі жывём,
Быццам тут не жылі нашы продкі...
Парасла наша мова быллём,
Ды струменіць, не згінула ўсё-ткі!
Дык давайце ж мы мову вяртаць,
Каб на гэтай зямлі нашай роднай
Беларускія песні спяваць,
Не згубіць, не забыць аніводнай!

Лагойскі раён,
в. Засоўе.

◆

*Ніна ЗАГАРЭЎСКАЯ*

## Родная мова

О мова родная, чаму
Цябе так многія не любяць,
Тваё жывое слова губяць,
Зусім не ўдзячныя яму?
Цябе душой любіў Купала,
Ты грэла Коласа цяплом,
Была для многіх ты ласкавай,
І для мяне ты — родны дом.
Чаму ж, за што цябе не любяць?
Ты льешся, быццам ручаёк.
Навошта крыўдзяць цябе, губяць,
Пачуўшы гоман твой здалёк?

Стаўбцоўскі раён,
Мікалаеўшчынская СШ.

Вершы падрыхтаваў
да друку
Мікола ЧАРНЯЎСКІ.

# ШТО МЫ ПАКІНЕМ ДЗЕЦЯМ

Працяг. Пачатак на с. 2.

біскуп Тадэвуш Кандрусевіч у час сваіх арцыпастырскіх візітацый у касцёлах Беларусі заўсёды прамаўляе да паствы на польскай і беларускай мовах, часам паруску і па-літоўску, у залежнасці ад тых мясцін, дзе ён знаходзіцца.

У гэтым годзе мне даводзілася быць на аўдыенцыі ў нашага біскупа разам з членам сойму БНФ Міхалам Фёдаравічам Дубянецкім. З намі біскуп таксама размаўляў па-беларуску. І станоўча ў размове сваёй з намі адносіўся да справы беларусізацыі каталіцкай царквы ў Беларусі.

На жаль, ёсць і адмоўныя факты. Папершае, вялікі супраціў каталіцкіх святароў у справе ўводу беларускай мовы ў касцёлах. Гэта, на жаль, робяць тыя святары, якія нарадзіліся на Беларусі альбо на Украіне, скончылі Рыжскую духоўную семінарыю, а цяпер зрабіліся так званымі шляхотнымі палякамі. І што цікава: мне даводзілася размаўляць з маладымі ксяндзамі, якія нарадзіліся ў Польшчы, і яны дзівіліся, што гэтыя ксяндзы не разумеюць патрэбы беларускай мовы. Яны казалі мне, што ў Польшчы місіянеры-ксяндзы, перш як ехаць працаваць на місію ў краіны Амерыкі і Азіі, павінны вывучыць і здаць экзамен па мове той краіны, дзе яны будуць працаваць.

Апошнім часам таксама вялікі націск робіцца на вывучэнне рускай мовы ў каталіцкіх духоўных семінарыях у Польшчы. І таму прыязджаюць да нас ксяндзы, працуюць на беларускіх каталіцкіх парафіях, праводзяць катэхізацыю дзяцей на польскай мове, але тлумачэнне сэнсу праводзяць на рускай мове, а не на беларускай.

Мне хацелася б, каб свядомыя беларускія інтэлігенты, якія тут прысутнічаюць, склалі зварот да Прэзідэнта М. Гарбачова, Папы Яна Паўла II, старшыні Прэзідыума ВС БССР М. Дземянцея, біскупа Т. Кандрусевіча, у якім узнялі б актуальныя праблемы беларускай мовы ў храмах Беларусі. А іменна: паўсюдна ўвесці карыстанне беларускай мовай ў хрысціянскіх храмах, прасіць біскупа Кандрусевіча і Мітрапаліта Філарэта прызначыць святароў, якія чыталі б курс лекцый па гісторыі царквы праваслаўнай і каталіцкай. Дазволіць у навучальных установах Беларусі трансляцыю набажэнства з праваслаўнай царквы і каталіцкага касцёла па тэлебачанні на святы, аднавіць рэлігійныя выданні на беларускай мове, адчыніць беларускамоўныя нядзельныя школы пры касцёлах і цэрквах, адчыніць у Мінску беларускамоўны каталіцкі касцёл лацінскага абраду, выдаць творы беларускіх пісьменнікаў, якія былі ксяндзамі, — Вінцука Адважнага, Казіміра Сваяка, Андрэя Зязюлі, творы ксяндза Адама Станкевіча і іншых .

Адам Мальдзіс, доктар філалагічных навук, сябра Рэспубліканскай Рады ТБМ:

— Я хачу прадоўжыць тую тэму, з якой выступіў святар Ян Матусевіч. Сваё выступленне я хачу прысвяціць пытанню «Мова і рэлігія». Гэта пытанне вельмі істотнае цяпер, калі мы стаім на пачатку свайго чарговага нацыянальнага адраджэння, імкнемся усвядоміць, хто мы і якое наша нацыянальнае аблічча.

І поспех тут будзе залежаць ад таго, як павядзе сябе вышэйшае кіраўніцтва, якой будзе школа, якой будзе сям'я і якой будзе наша царква.

Бадай што першым зразумеў усю важнасць лучнасці мовы народнай і рэлігіі Францішак Скарына.

Імкнучыся даць народу слова божае на зразумелай народу мове, Францішак Скарына стаяў і стаіць ля вытокаў нашай нацыянальнай свядомасці, даваў і дае добры прыклад наступным пакаленням. Гэты прыклад перанялі Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, няхай і на хвалі Рэфармацыі. Але што цікава: калі ў іншых народаў на хвалі Рэфармацыі пачалося сапраўднае нацыянальнае адраджэнне, то ў беларусаў на хвалі Рэфармацыі побач з выданнямі Буднага, Цяпінскага пачалася і масавая паланізацыя найперш з сацыяльных вярхоў.

Вядома, у нечым справу Скарыны працягнулі уніяты. Мы сёння павінны змяніць свае адносіны да уніі, якія ў нас выпрацаваліся ў часы «абэцэдаршчыны» і яшчэ раней, пры сталінскім рэжыме стаўленне да уніі было толькі адмоўнае, як навязанае паланізатарамі з мэтай запаланіць беларускі народ, учыніць нацыянальны і сацыяльны прымус і г. д.

Раней унія ў нас была толькі са знакам «мінус». Але калі ўзяць усе факты ў сукупнасці, то мы бачым, што справа значна складаней, што побач з яўнымі мінусамі — таму што ўсё-такі унія ў пэўным сэнсе была навязана народу — у уніі было вельмі і вельмі многа плюсоў. Адзін з іх — гэта спроба стварыць рэлігію, якая б прынесла мір гэтаму народу і якая была б на цыянальнай рэлігіяй.

Тады ва уніяцкай царкве шырока распаўсюдзілася беларуская мова. Праваслаўе ў цэлым заставалася верным царкоўнаславянскай мове і рэдкія выключэнні, накшталт Івана Насовіча, адзінага, бадай, святара ў XIX стагоддзі, які быў зацікаўлены ў развіцці беларускай мовы, толькі пацвярджаюць агульныя правілы.

Безумоўна, рабіліся спробы вярнуцца да беларускай мовы каталіцкай царквой у XVII, XVIII, XIX стагоддзях. Вельмі многа зрабілі каталіцкія святары на пачатку XX стагоддзя — дастаткова прыгадаць ксяндза Абрамовіча, блізкага сябра Янкі Купалы, Казіміра Сваяка, Андрэя Зязюлі, Язэпа Германовіча (пісаў пад псеўданімам Вінцук Адважны), Адама Станкевіча і многіх іншых.

Сёння гэтыя традыцыі развіваюцца дрэнна. Калі з боку праваслаўнай царквы мы бачым спробы, няхай першыя, павярнуцца да беларускай мовы — пра гэта сведчыць і той новы пераклад Свяшчэннага Пісання, які робіцца камісіямі пры Мітрапаліце, і тое, што ў Жыровіцкай семінарыі ёсць беларускі клас, і тое, што многія святары, асабліва маладзейшага пакалення, шырока ўжываюць беларускую мову ў выступленнях — то з каталіцкага боку, я сказаў бы, такога разумення вельмі і вельмі мала.

Склалася парадаксальная сітуацыя. Паводле перапісу насельніцтва, у Беларусі пражывае каля 500 тысяч палякаў, а што датычыцца католікаў, то, па асцярожных падліках заходніх спецыялістаў і па падліках таго ж Ватыкана, сцвярджаецца, што католікаў на тэрыторыі Беларусі 2,5 мільёна. Узнікае заканамернае пытанне: хто ж гэтыя 2,5 мільёна? Таксама палякі? У польскіх крыніцах сцвярджаецца: так — кожны католік на тэрыторыі Беларусі — паляк.

Яўген Лецка, кандыдат філалагічных навук:

— Некалькі слоў пра рэальных і ўяўных палякаў на Беларусі. Што датычыць першых, то ім трэба стварыць спрыяльныя для

нацыянальнага самасцвярдэння ўмовы. Не такія, вядома, якія існавалі і існуюць для беларусаў на Беласточчыне, дзе іх пражывае каля паўмільёна, а іхнія продкі жылі там спрадвеку.

Продкі ж нашых так званых палякаў, нягледзячы на прымусовую паланізацыю ў мінулым, захавалі мову і ўсе прыкметы, уласцівыя беларусам. Дый палякамі гэтыя «палякі» называюць сябе з усмешкай, разумеючы ўмоўнасць гэтай назвы. Каталікі называлі сябе палякамі, праваслаўныя рускімі, а працэс русіфікацыі ў аднолькавай меры датычыў як тых, так і другіх. Але цяпер становішча істотна памянялася. Узнікла таварыства польскай культуры ў Беларусі, на чале якога стаяць людзі, якія сваю дзейнасць вядуць куды больш актыўна, мэтаімкнённа і настойліва, чым мы, сябры ТБМ. І да палякаў яны залічваюць усіх каталікоў-беларусаў.

Цяпер пры касцёлах паўсюль адчынаюцца каталіцкія нядзельныя школы, і там вучаць не толькі казаць «Дзень добры», «Дзенькуе» і «До відзэння», але і польскаму нацыянальнаму духу, польскаму патрыятызму. Пры такім стаўленні мы праз пару год можам мець на Гродзеншчыне свой Нагорны Карабах.

**Уладзімір Шчасны**, памочнік міністра замежных спраў БССР:

У нас унікальныя ў свеце адносіны да беларускамоўных выданняў. Калі кніга не прадаецца праз месяц ці два — гэта ўжо паніка, гэта ўжо гвалт. Ва ўсім цывілізаваным свеце робіцца так: калі кніга не разыходзіцца, яна адвозіцца ў нейкі цэнтральны склад і ляжыць там. А ў кнігарнях заводзяцца спецыяльныя кнігі запісаў усіх выданняў за апошнія дзесяць гадоў. І калі чалавеку патрэбна тая ці іншая кніга, ён заказвае як па гэтым даведніку. А то абсурд атрымліваецца — крычалі, што многа выпусцілі кніжак Якуба Коласа, а праз нейкія два гады гэту кніжку нельга знайсці.

Трэба, лічу, выдаць нам больш практычных падручнікаў для ўсіх узростаў, па ўсіх спецыяльнасцях. Для гэтага неабходна стварыць тэрміналагічную камісію, якая існавала ў 20—30 гады. Гэта камісія павінна займацца не толькі фундаментальнымі даследаваннямі, але і быць інфармацыйным цэнтрам. Калі каму трэба даведацца, як той ці іншы тэрмін будзе гучаць па-беларуску, ён павінен пазваніць па тэлефоне і атрымаць адказ.

**Віктар Вабішчэвіч**, старшыня Столінскай раённай рады ТБМ:

— Чаму мы па-ранейшаму працягваем ганебнае выхаванне на дзвюх літаратурах? Мы павінны весці выхаванне на усіх літаратурах, але ў аснове павінна быць адна — наша літаратура. Згодзен, нам трэба ведаць і рускую літаратуру, але магчыма дзве гадзіны ў тыдзень на яе хапіла б.

Лічу зноў жа неапраўданымі тыя навучальныя планы, якія прапануюцца для літоўцаў і палякаў. Трэба ўлічваць усё ж, што яны жывуць, як запісана ў Канстытуцыі, у суверэннай беларускай дзяржаве. І калі беларускую мову ім трэба ведаць, так як і ў беларускай школе, то гадзін рускай мовы зашмат.

**Валянціна Раманцэвіч**, загадчык кабінета беларускай мовы і літаратуры Мінскага гарадскога інстытута ўдасканалення настаўнікаў:

Ніяк мы не можам угаварыць школу № 19 імя Янкі Купалы, каб яны адкрылі хоць бы беларускія класы. Калі сталічным школам імя Янкі Купалы, імя Якуба Коласа не быць беларускімі, дык як тады мы можам вырашаць іншыя праблемы.

Будуюцца новыя школы, і не зразумела, чаму яны не становяцца школамі з беларускай мовай навучання. Лічу, што пры назначэнні кіраўнікоў школ трэба ўлічваць, ці ведаюць яны беларускую мову, ці змогуць пераканаць бацькоў, каб тыя аддавалі сваіх дзяцей у беларускамоўныя класы.

**Віктар Сіўчык**, кандыдат фізіка-матэматычных навук:

— Палітыка ігнаравання інтарэсаў беларускага народа мае даўнія традыцыі і вызначаецца шматгадовым імкненнем Польшчы павялічыць свае тэрыторыі за кошт усходніх, а Расіі за кошт заходніх беларускіх земляў. Вызначальны фактар каланіяльнай палітыкі Польшчы і Расіі ў адносінах да Беларусі — змяніць этнічную арыентацыю народа (апалячыць ці русіфікаваць), каб зацвердзіцца тут на стагоддзі. Метад этнічнай пераплаўкі беларусаў у палякаў і рускіх адзін і той жа — спачатку адмена беларускай мовы на дзяржаўным узноўні, а затым перавод школ, цэркваў і касцёлаў адпаведна на польскую ці рускую мовы.

Гэтым спосабам на працягу больш як 400 гадоў з беларусаў на беларускіх землях фарміраваліся спачатку палякі, затым рускія. Дастаткова ўспомніць славутых палякаў беларускага паходжання: Касцюшку, Міцкевіча, Манюшку, Агінскага і інш., каб зразумець, якія вялікія сілы аддаў беларускі народ на службу польскай ідэі.

На нашых вачах намаганнямі каталіцкай царквы і Літоўскай рэспублікі ўзнік ужо ў XX стагоддзі новы «польскі» этнас у Літве. Поўнае разбурэнне беларускага этнаса на Віленшчыне супадае па часе з 100% русіфікацыяй Мінска і іншых гарадоў Беларусі.

**Сяргей Запрудскі**, кандыдат філалагічных навук:

— Ці была рэформа правапісу 1933 года лагічным працягам папярэдніх навуковых дыскусій пра беларускі правапіс — канферэнцыі 1926 года, праекта беларускага правапісу 1933 года, — або ўсё ж такі адлюстравала грубае ўмяшанне ў рашэнне складаных навуковых задач з боку сіл, далёкіх ад навукі. Вось, відаць, асноўнае пытанне, вакол якога сёння вядзецца дыскусія, калі гаворка ідзе пра рэформу 1933 года.

За гэты час было дастаткова публікацый у друку. Цытую з артыкула Л. М. Шакуна, які быў змешчаны ў «Вестнику БГУ» 1988 года: «Круты паварот пачынаецца з пастановы 1933 года. Пастанова намеціла той галоўны напрамак, па якім павінна развівацца ў далейшым беларуская літаратурная мова, удасканальвацца яе сродкамі. Яе развіццё накіроўвалася на збліжэнне з рускай мовай... »

Цытата з прэамбулы да пастановы 1933 года: «...Уносіць поўнае падпарадкаванне беларускага правапісу задачам выхавання працоўных мас у духу пралетарскага інтэрнацыяналізму». Натуральна, што такія задачы не маглі ставіцца навукоўцамі, таму што ніводзін сур'ёзны мовазнаўца пры рэформе правапісу не будзе перш за ўсё дбаць пра тое, каб як мага зблізіць свой правапіс з правапісам іншай мовы.

Прывадныя рамяні, якія запусцілі ў ход рэформу 1933 года, безумоўна, іншыя. У 30-м годзе была арыштавана група мовазнаўцаў, і з папярэдняй правапіснай камісіі, якая працавала з 1926 года па 1930 год, засталіся толькі 2 чалавекі, а іншыя, такія, як Некрашэвіч, Лёсік, Ластоўскі, былі арыштаваны і сасланы.

Насуперак таму, што напісана ва ўсіх падручніках, не было шырокага абмеркавання перад рэформай непасрэдна.

**Мікола Купава**, мастак:

Па сённяшні дзень мы не з'яўляемся гаспадарамі свайго жыцця, сваёй зямлі. Тыя страты, да якіх мы прыйшлі, я звязваю непасрэдна з гэтым.

Зараз час мяняецца і, бясспрэчна, змяніцца сітуацыя, у якой мы знаходзімся. Але толькі грамадства, толькі сам народ здолее сябе вырataваць ад духоўнай катастрофы. І гэта мы павінны асэнсаваць як народ і заняцца справай.

Мы з прыемнасцю канстатуем: тое, пра што мы з вамі гаварылі з асцярогай дватры гады назад, — напрыклад, аб дзяржаўнасці мовы — сёння ўжо стала рэальнасцю.

**Уладзімір Колас**, кінарэжысёр:

Усе мы разумеем, што вучыць дзяцей беларускай мове трэба пачынаць з дзіцячага садка. На гэты конт у мяне ёсць прапанова. У Мінску жыве шмат бабулек, якія валодаюць цудоўнай беларускай мовай. Неабходна выдаткаваць грошы (нейкую стаўку) гэтым жанчынам і запрашаць іх у садкі. Можа, на гадзіну нейкую, каб яны займаліся з дзецьмі нашымі: расказвалі ім казкі, гулялі ў гульні, проста размаўлялі б. Гэта і бабулям будзе цікава, і капейку нейкую атрымаюць у дадатак да сваіх пенсій, і карысна дзя дзяцей. Гэта будзе пераемнасць пакаленняў.

**Вінцук Вячорка**, выкладчык педінстытута імя А. М. Горкага:

Я прапанаваў бы ўключыць у пастанову канферэнцыі такое палажэнне. «Адзіным паратункам беларускага народу, яго культуры і мовы ёсць рэальны дзяржаўны суверэнітэт Беларусі. Канферэнцыя заклікае народных дэпутатаў рэспублікі зрабіць усё для яго дасягнення. Вярхоўны Савет БССР павінен выбіраць на найвышэйшыя пасады толькі людзей, здольных годна і дзейсна адстойваць інтарэсы беларускага народу і ягонай мовы, людзей, рэпутацыя якіх не заплямлена нацыянальна-нігілістычнымі выказваннямі і ўчынкамі».

**Ніл Гілевіч**, пісьменнік, старшыня рэспубліканскай Рады ТБМ:

Многія таварышы гаварылі аб тым, што зараз мы назіраем нешта накшталт новага этапу паланізацыі нашага народа. Сотні тысяч беларусаў-каталікоў у нас лічаць сябе палякамі. Відочна, што нам неабходна тут павесці вялікую растлумачальную работу, нам патрэбны тысячы і тысячы публікацый на гэту тэму ў друку. Беларусы павінны быць беларусамі незалежна ад свайго веравызнання.

Я падзяляю думку, што адкрываць беларускія класы ў рускамоўных школах — гэта не той шлях, па якім трэба ісці. Трэба школы беларускія адкрываць, а не класы.

Хачу выказаць сумненне наконт таго, што да рэформы правапісу мы зможам вярнуцца толькі праз тры гады. Іменна цяпер, калі людзі масава пачынаюць вывучаць беларускую мову, патрэбен і новы правапіс, а не цяперашні, знявечаны і скалечаны. Бо потым мільёны людзей вымушаны будуць зноў перавучвацца.

У лістападзе 1988 года ў інтэрв'ю БелТА я выступіў супраць авантурызму ў палітыцы, супраць таго, каб у нашых беларускіх умовах дабівацца поўнай дзяржаўнай незалежнасці. Мы павінны дамагацца рэальнага суверэнітэту рэспублікі, але ў сям'і нашых народаў, паяднаных дзяржаўным Дагаворам.

Справаздачу падрыхтаваў
М. СУПРАНОВІЧ.

## ЧАС АБ'ЯДНАЦЬ НАМАГАННІ

Я — беларус, паляшук, хоць і пражыў у Беларусі пастаянна толькі 7 гадоў. Мне 38. З 15 гадоў я жыву ў Расіі, у Маскве. Усе гэтыя гады лёс маёй Бацькаўшчыны, Беларусі, яе мовы і культуры хвалюе мяне, бо я яе сын. Вось чаму я і рашыў напісаць Вам па-беларуску, прабачайце, калі ласка, калі я дзе небудзь памылюся. Пішу ў камандзіроўцы, бо працую начальнікам спецпоезда МПС.

Міжнацыянальныя адносіны... Яны закранаюць кожнага з нас, таму што ўсе мы ці па нараджэнні, ці па выхаванні належым да якога-нубудзь роду-племені. А гэта і нацыянальная псіхалогія, культура, мова, пачуццё гісторыі.

Цяпер многа і правільна пішацца аб чарнобыльскай трагедыі. І мая маці жыве ля гэтай зоны. Але ж не меншы ў мяне боль за нашу родную мову і культуру. Наш беларускі ўрад, партыйныя функцыянеры не вельмі клапаціліся аб мове, культуры, школе. У нас у рэспубліцы, як нідзе ў Саюзе, амаль усё на рускай мове: дарожныя знакі, назвы магазінаў, вывескі і інш. Нідзе ў вясковым ці пасялковым Савеце вам не дадуць ніякае цыдулкі-даведкі на беларускай мове. Народ жадае размаўляць толькі парускy. Праўда, атрымліваецца не мова, а «трасянка», як вобразна заўважыў на першым з'ездзе народных дэпутатаў Я. Пэтэрс з Латвіі. Многія дэлегаты і на з'ездзе, і на сесіі Вярхоўнага Савета СССР падымалі пытанне аб нацыянальных мовах, толькі не беларускія дэпутаты. Чаму так?

А Вярхоўны Савет БССР?

Я летам 1989 года наглядаў па тэлевізары пасяджэнне Вярхоўнага Савета БССР (я якраз праязджаў праз Беларусь) і быў занадта ўсхваляваны і выбіты з «каляі» тым, што ўбачыў і адчуў там. Амаль усе дэпутаты гаварылі на дрэннай «трасянцы», і толькі Ніл Гілевіч, Іван Навуменка ды яшчэ нейкі пісьменнік і ўсяго адзін дэпутат не пісьменнік за тры дні працы сесіі гаварылі на роднай мове. Мне было сорамна і за сябе, і за свой народ, і за усю Беларусь. Хто мы? Чаму з намі здарылася такое? Дзе нашы карані? Дзе наша гісторыя і якая яна? Чаму ў нас няма ні кніг, ні фільмаў, ні спектакляў аб гэтым? Чаму ў кожным беларусе сядзіць комплекс непаўнацэннасці? Чым мы горшыя за літоўцаў, з якімі нас звязала гісторыя, горш за украінцаў-братоў, якія змагаюцца і за нашу мову таксама? Чым горшая наша мова ад другіх славянскіх моў? У нас жа такая цудоўная літаратура! А якая гісторыя! Чаму ж аб гэтым не ведае наш беларускі народ? Чаму не ганарыцца сваёй гісторыяй?

Можа, мы, беларусы, не стаўшы паўнапраўнай нацыяй, пачалі ўжо выраджацца? І Чарнобыль — гэта пакаранне? За нашы грахі, за тое, што забываем сваіх бацькоў, продкаў? Забылі, хто мы? Хто мы — паміж дзвюх вялізных суссветных, такіх блізка славянскіх культур: польскай і рускай?

Чаму ў Беларусі такая варожая кампанія супраць БНФ «Адраджэнне»? Якое права мае займаць пасаду кіраўніка Камітэта па міжнацыянальных адносінах наш былы старшыня Вярхоўнага Савета БССР Таразевіч, які палец аб палец не ўдарыў, каб хоць трохі падтрымаць мову і культуру свайго народа? Як ён будзе клапаціцца аб іншых народах, калі яго не цікавіць лёс свайго?

У мяне ёсць яшчэ два браты. Жывуць таксама не ў Беларусі: адзін у Маскве, другі ў Ленінградзе. Усе мы выпісваем з Радзімы часопісы, газеты, чытаем беларускія кнігі, а вось наша маці — звычайная беларуская сялянка, паляшучка, не разумее гэтага, абураецца на нас, не любіць сваёй мовы — і яна не адна такая. Нашым родзічам, аднавяскоўцам, дзіва, што мы такія. Прыязджаюць на пабыўку і нашы сябры, яны жывуць больш у беларускіх гарадах, і таксама, як і мы, з вёскі. Дык яны стараюцца размаўляць толькі па-руску, праўда са страшэнным «трасянкаўскім» акцэнтам. А пабеларуску? А ні-ні, толькі пагарадскому! Што ж гэта ў нас за культура такая. Я чытаў некалі ў маладосці «Лісткі календара» М. Танка; ён таксама задаваўся гэтым пытаннем: «Чаму нас чужыя людзі хаяць, а мы самі сябе хвалім?» А праўда: за што нас паважаць другім народам? За тое, што мы ледзь не палажылі на алтар перамогі амаль увесь народ? Каб вайна здоўжылася яшчэ год-паўтара, то што б засталося ад беларускай нацыі? Мы любім быць ахвярамі. Ахвярнасць — наш лёс. Чаму — так? Што сядзіць у нашай душы? Чаму толькі ў гадзіны небяспекі, толькі ў надзвычайны момант мы можам паказаць свой сапраўдны твар, сваё беларускае Я? Чаму ў нашага народа пагаворка — «абы ціха было!..» — сталаназыўною? Чаму мы ўсяго баімся? Калі мы станем свабоднымі?

Нам трэба нейкае нацыянальнае адраджэнне, нейкі нацыянальны рух. Трэба пазнаць сябе людзьмі. Трэба нешта рабіць. На беларускай інтэлігенцыі, на пісьменніках ляжыць гэтая агульная справа, справа аб'яднання, адраджэння. Працягнем руку і нашым братам ў Расіі, Польшчы, Прыбалтыцы, Амерыцы... Чаго мы саромеемся? Каго мы баімся? Чаму не выступіць Васіль Быкаў і не скажа на ўвесь голас праўду на З'ездзе народных дэпутатаў СССР?

Але ж хопіць. Хацелася выказацца.

Мікалай КАС'ЯНЧЫК,
начальнік рэфрыжэратарнага цягніка, жыхар Масквы.

## РОДНАЯ МОВА Ў СВЯТЫНЯХ

Паступова, але няўхільна ўзрастае і мацнее пазіцыя беларускай мовы ў дзейнасці праваслаўнае царквы на Беласточчыне, асабліва ў Беластоцка-Гданьскай епархіі, якую ўзначальвае архіепіскап Сава. Гэтаму, несумненна, спрыяюць тыя дэмакратычныя пераўтварэнні, якія цяпер адбываюцца ў Польшчы.

У выніку настойлівых захадаў архіепіскапа Савы, святароў і свецкіх дзеячоў у пачатку кастрычніка 1980 года ўдалося атрымаць пяць хвілін для пропаведзі на беларускай мове ў штотыднёвай беларускамоўнай перадачы Беластоцкага радыё. З першай пропаведдзю выступіў архіепіскап Сава; у евангельскім павучэнні ён заклікаў шанаваць родную беларускую мову, сваю гісторыю і традыцыі. Цяпер кожнае нядзелі перад мікрафонам выступаюць святары з розных парафій Беласточчыны. Людзі чакаюць гэтых пропаведзяў, як вялікага свята, збіраюцца каля радыёпрыёмнікаў цэлымі сем'ямі, з суседзямі, завуць іх «нашым беларускім Божым Словам», запісваюць на магнітафонныя стужкі, пазычаюць адны адным касеты.

Кожнае нядзелі ва ўсіх сямі праваслаўных цэрквах Беластока і ў навакольных святынях удзельнікі набажэнства атрымліваюць адбітак беларускага перакладу таго фрагменту Евангелля, які чытаецца падчас літургіі на царкоўнаславянскай мове. Вернікі абярэжліва нясуць дамоў гэтыя адбіткі з апостальскімі выказваннямі, перачытваюць іх, старанна зберагаюць. Архіепіскап Сава накіраваў у парафіі свае епархіі праякнутае глыбокім патрыятычным зместам Калядное пасланне на беларускай мове. Варта дадаць, што па просьбе адной з беларускамоўных рэдакцый Аўстралійскага радыё архіепіскап Сава выступіў на яе хвалі з калядным прывітаннем, у якім, між іншым, наш архіпастыр заклікаў аўстралійскіх суродзічаў зберагаць родную мову, свае звычаі, не парываць сувязяў з старой Бацькаўшчынаю. Пасол польскага Сойма Яўген Чыквін і царкоўны актыў робяць захады ў Беластоку і Варшаве пра дазвол на штотыднёвую паўгадзінную праваслаўную рэлігійную беларускамоўную перадачу па Беластоцкім радыё і гэткую самую перадачу адзін раз на месяц па Агульнапольскім тэлебачанні.

Пры Беластоцка-Гданьскай епархіі дзейнічаюць два брацтвы — маладзёжнае і дарослых. Яны ўваскрашаюць і працягваюць традыцыі славутых праваслаўных брацтваў XVI—XVIII стагоддзяў, якія дзейнічалі на землях Вялікага княства Літоўскага. Маладзёжнае брацтва, адначасна з іншымі формамі катэхізацыйнай і культурна-асветнай дзейнасці, з бласлаўлення архіепіскапа Савы выдае на беларускай мове цікавы часопіс «Фос» («Святло»). Ён багаты зместам і на добрым узроўні. Праваслаўнае брацтва дарослых займаецца ў асноўным гаспадарчаю дзейнасцю, але не забывае і пра родную мову: вядзе курс беларускае мовы. Яго наведвае моладзь, якая з-за розных прычын не мела магчымасці вывучаць яе ў школе.

Сярод шырокага кола вернікаў і царкоўных дзеячоў, якія гуртуюцца пры архіепіскапе Саве, распрацоўваюцца і паслядоўна ажыццяўляюцца ўсё новыя мерапрыемствы ў пашырэнні ўжывальнасці і павышэнні грамадскага рангу белару-

ское мовы. Цяпер, напрыклад, галоўны рэдактар польскамоўнага часопіса «Тыгоднік Подляскі», прысвечанага праваслаўю ў Польшчы, Яўген Чыквін і яго супрацоўнікі рыхтуюцца ўвесці ў гэтае выданне старонку на беларускай мове. Тут варта яшчэ адзначыць, што гэты часопіс ад пачатку свайго існавання (1982 г.) публікуе шмат цікавых матэрыялаў пра гісторыю, культуру і грамадскае жыццё Беларусі.

Мікола ГАЙДУК.
г. Беласток.

## ВАША МОВА — ІМКНЕННЕ ДУШЫ

Па нацыянальнасці я украінец. Нарадзіўся ў вёсцы Лучанкі, што на поўначы Жытомірскага Палесся, каля самай беларускай мяжы. Тутэйшая гаворка амаль тая ж, што і ў суседніх беларускіх вёсках. Яшчэ ў дзяцінстве глядзеў першыя тэлеперадачы з Гомеля, Мінска. І дагэтуль штодня з блакітных экранаў у дамах маіх аднавяскоўцаў гучыць беларускае слова, такое зразумелае без перакладу, такое пявучае, такое блізкае. А потым на нашым украінскім аддзяленні ва універсітэце — беларуская мова як прадмет, што меў назву «адна са славянскіх моў». Так, у Сімферопалі (не здзіўляйцеся) нас, студэнтаў, зацікавіў ёю цудоўны чалавек, зараз дэкан філалагічнага факультэта Яўген Рагушэўскі. А потым з'явіліся беларускія выданні «Чырвоная змена», «Беларусь», «Настаўніцкая газета», «Звязда».

Вось ужо больш як 10 гадоў праходзяць сустрэчы нашых школьнікаў з сябрамі са Стадолічаў, Грабянёў Лельчыцкага, са Скароднага, Засінцаў Ельскага раёнаў. І кожны раз побач з роднай украінскай гучыць, наколькі дазваляе запас ведаў, для шчырых сяброў і іх родная мова. А сваю частку канцэрта ў раённым доме культуры аўтар гэтага пісьма правёў таксама па-беларуску. Такі мой шлях у беларускую мову.

Але ж, таварышы дарагія, сказанае вышэй — не дзеля рэкламы. Проста само жыццё ставіць умову, што для далейшага руху патрэбна добрае веданне граматыкі, дастатковы лексічны запас і моўны навык, каб з беларусамі магчы размаўляць так свабодна, як размаўляю на сваёй роднай мове. Вось такі мой «практычны» водгук на папулярную цяпер фразу: «Пара ад прыгожых слоў аб братэрстве пераходзіць да сапраўдных спраў». А яшчэ веданне мовы дапаможа падчас збірання палескага дыялектычнага матэрыялу, чым я зараз займаюся.

Не ведаю, можа, маё пісьмо выкліча ў Вас здзіўленне, таму што на Беларусі наконт адраджэння роднай мовы работы непачаты край, але не забывайцеся, калі ласка, і пра небеларусаў па-за межамі БССР, якія Вам сімпатызуюць і для якіх Ваша мова — імкненне душы. Дапамажыце вывучыць Вашу цудоўную мову!

Сергей КАВАЛЬЧУК,
260014, УССР,
Жытомірская вобласць,
Оўруцкі раён,
в. Лучанкі.

## ВЯРТАННЕ ДА ВЫТОКАЎ

Вяртаннем да вытокаў нашай духоўнасці і нацыянальнай свядомасці можна назваць свята, якое адбылося 20 мая паблізу Цнянскага вадасховішча ў Мінску, непадалёку ад вуліцы Мірашнічэнкі. Рада ТБМ Савецкага раёна наладзіла тут святкаванне 500-годдзя з дня нараджэння вялікага беларускага гуманіста, асветніка і першадрукара Францыска Скарыны.

Свята адкрыў літаратуразнаўца і крытык Адам Мальдзіс, перад прысутнымі выступілі народныя дэпутаты БССР Юрый Беленькі, Вячаслаў Кузняцоў, Алег Трусаў, ён жа старшыня Рады ТБМ Савецкага раёна. Гэта якраз па ягонай ініцыятыве і пад ягоным кіраўніцтвам ладзілася свята. З чытаннем сваіх вершаў, прысвечаных Францыску Скарыну, выступалі паэты Леанід Пранчак і Пятро Сушко, з цікавасцю слухалі прысутныя песні паэтаў-бардаў Алеся Камоцкага і Сяржука Сокалава- Воюша.

Збіралася ўсё больш і больш людзей, родныя словы знаёмых, але амаль забытых песень склікалі іх у грамаду. Майстэрства «Купалінкі» прываблівала іх сюды. Ужо даўно за паўдня, а на падмосткі выходзяць усё новыя выканаўцы: студэнты Мінскага педвучылішча № 2 і студэнты тэхналагічнага інстытута з Балгарыі, славуты хор «Журавінка» пад кіраўніцтвам А. Еўсюкова і дзіцячы мастацкі калектыў пры камітэце грамадскага самакіравання Першамайскага раёна. Праграму ўмела вядзе дыктар Беларускага радыё Алесь Свістуновіч.

У гэты святочны дзень супрацоўнікі газеты «Піянер Беларусі» Алена Масла, Алена Трусава разам з рэдактарам газеты Ірынай Угальнік працавалі з дзецьмі. Яны зрабілі юбілейныя рэкламныя раскладанкі, правялі конкурс сярод чытачоў, раздалі прызы пераможцам.

Экспанаваліся мастацкія творы Скарыніяны з калекцыі Анатоля Белага. Быў наладжаны продаж беларускіх кніг, за лічаныя хвіліны разышоўся альбом «Францыск Скарына».

У падрыхтоўцы і правядзенні свята актыўна ўдзельнічалі сябры Рады ТБМ Савецкага раёна — выкладчык Белдзяржуніверсітэта В. Каладзінскі, настаўніца сярэдняй школы № 34 А. Копач, загадчыца бібліятэкі імя Янкі Купалы А. Костылева.

Хочацца верыць, што ў гэты дзень у многіх прысутных на свяце развінуліся парасткі «вялікае ласкі» да Бацькаўшчыны, пра якую гэтак палымяна і з надзеяй на нашчадкаў пісаў Францыск Скарына.

Ала КАЖЭРА,
настаўніца СШ № 28,
сябра Рады ТБМ
Савецкага раёна
г. Мінска



«Наша слова» ідзе да чытачоў

## РАЗУМЕЮ І ЛЮБЛЮ

Я па нацыянальнасці украінка, у Беларусі ў мяне няма нікога з блізкіх, я там ніколі не была, але беларускую мову разумею і люблю. Мне падабаюцца беларускія песні, я з прыемнасцю слухаю іх па радыё. Як толькі пачую беларускую песню, дык адразу ўключаю радыё на ўсю гучнасць. Люблю слухаць выступленні ансамбляў «Сябры», «Песняры», «Верасы», а больш за ўсё мне да сэрца «Жывіца». Гэты ансамбль выконвае старыя і нават амаль забытыя народныя песні.

Я таксама выпісваю беларускія часопісы «Беларусь», «Крыніца», «Работніца і сялянка», «Вожык». Асабліва падабаюцца часопісы «Беларусь» і «Крыніца», дзе з захапленнем чытаю публікацыі на тэмы гісторыі і рэлігіі.

Надзея КРАШЧУК,
с. Чарнёнава
Ульянаўскай вобласці.

## ЗАГУЧАЛА РОДНАЯ МОВА

Быў сёлетні прафесійны Дзень энергетыка. Звычайны працоўны дзень. І толькі віншаванні на дошках аб'яў калектывам энергацэхаў сведчылі пра іхняе прафесійнае свята. Але вось загучала заводскае радыё. Загучала беларускім словам. Гэта галоўны энергетык завода віншуе энергаслужбы. І адразу ўздымаецца настрой, цяплее ў душы. Сёння па заводскаму радыё перадавалі В І Н Ш А В А Н Н Е.

У. КАСЦЮК,
11-ты ДПЗ,
г. Мінск.

# МОВА НАВУКІ

Мова навукі — магутны сродак пазнання, захавання і перадачы інфармацыі пра аб'екты і з'явы навакольнага свету. Цягам стагоддзяў у якасці яе выступала лаціна. Навука тады была далёкая ад грамадскай практыкі, нязначны быў яе ўплыў на развіццё гаспадаркі, але вучоныя вельмі добра разумелі адзін аднаго. Даволі было вывучыць лацінскую мову — і працы ўсёй адукаванай Еўропы былі да іхных паслугаў.

З падвышэннем грамадскай значнасці навукі яна ўсё болей урастала ў нацыянальную глебу. Лаціна перастала быць універсальнай моваю, але як вынік папярэдняга панавання ў навуцы захавалася лацінская тэрміналогія. Дый сёння лаціна — адна з крыніцаў папаўнення тэрміналогіі. Навука моцная сваёй тэрміналогіяй, якая характарызуе ўзровень яе развіцця і якасна адрозніваецца ад звычайнае лексікі.

У развіцці тэрміналогіі існуюць дзве тэндэнцыі: «нацыяналізацыя» і «касмапалітызацыя». Яны адлюстроўваюць пытанне, якое праз усю гісторыю стаіць поруч з навукай: каму яна павінна служыць? Вузкаму колу вучоных, няхай нават усяго свету, ці народу той краіны, дзе працуе вочоны? Каб быць карыснай у сваім доме, навука павінна быць зразумелая народу. А каб развівацца, яна мусіць служыць сусветнай супольнасці вучоных. Якое выйсце з гэтай супярэчнасці? Відавочна, сталая праца з пасяццевым апаратам, удакладненне яго з улікам абедзвюх тэндэнцый.

У нашай рэспубліцы справа з навуковай тэрміналогіяй апынулася ў занядбаным стане. Доўгія гады дамінуе «касмапалітызацыя» ды «русіфікацыя». А між тым, калі звярнуцца да гісторыі пытання, бліскучыя вынікі па складанні беларускай тэрміналогіі дала камісія Інстытута Беларускае Культуры, пра што пісала ўжо «Наша слова» (№ 3, с. 8). Камісія прапанавала блізка 60 тысяч навуковых тэрмінаў. У аснову іх леглі словы з жывой народнай мовы і часткова — распаўсюджаныя іншаземныя словы, вядомыя народу. У пасобных выпадках дапускалася канструяванне тэрмінаў на аснове лексічных і словаўтваральных сродкаў роднае мовы. Асабліва вялікую працу па складанні тэрміналогіі праводзілі Я. Лёсік, В. Ластоўскі, А. Смоліч і Я. Каранеўскі, якія былі навуковымі рэдактарамі шмат якіх выпускаў.

Адным са складальнікаў выдадзенага ў 1923 годзе выпуску «Геаграфічныя і касмаграфічныя тэрміны і назвы нябесных целаў» быў Мікола Азбукін, які адказваў за геаграфічную частку. М. Азбукін шырока выкарыстоўваў унутраныя рэсурсы беларускае мовы. Шэраг прапанаваных ім тэрмінаў не грэх і сёння скарыстаць геаграфічнай навуцы. Напрыклад, нават спецыялісты геолага-геаграфічнага профілю не заўсёды ўпэўнена адказваюць, якія нацёчнакропельныя ўтварэнні ў пячорах называюць сталактытамі, а якія — сталагмітамі, што ўгары, а што ўнізе. М. Азбукін усё паставіў на свае месцы: сталактыт — нацёк, сталагміт — накопак. Легка і трывала запамінаецца нават школьніку. Гэтакія ж удалыя і шмат якія іншыя прапанаваныя тэрміны: *тубылец* (абарыген), *выпятрэнне* (выветрыванне), *жвір* (гравій), *сухмень* (засуха), *зьлепняк* (кангламерат), *сьнегазвал* (лавіна), *рог* (мыс), *апоўзак* (апоўзень), *роўналежнік* (паралель), *пярэсмык* (перашыек), *віхраслуп* (смерч), *мелкамор'е* (шэльф). Як бачым, няма сумніву, што ў слоўніку і сёння ёсць што пашукаць географу.

Хваля адраджэння беларускай мовы, што ўзнялася ў сярэдзіне 80-х гадоў, не можа не закрануць і навуковую тэрміналогію, у тым ліку і геаграфічную. Гэтая велізарная праца можа быць адоленая толькі супольнымі намаганнямі рупліўцаў на ніве нашае мовы, і таму вітаем стварэнне Тэрміналагічнай камісіі пры Таварыстве беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

Андрэй БОЛАТАЎ, Генадзь РЫДЗЕЎСКІ, правадзейныя сябры Геаграфічнага таварыства БССР

## АБВЕСТКА

СШ № 93 г. Мінска аб'яўляе прыём вучняў у першыя беларускамоўныя класы з элементамі гімназіі: вывучэнне з першага класа англійскай мовы, логікі, этычнай граматыкі, польскай мовы — з пятага класа. Залічэнне — паводле вынікаў папярэдняй гутаркі.

Даведкі па тэлефоне: 65-54-21. Наш адрас, вул. Сядых, 10.

**Дырэкцыя школы.**

## Арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, зарэгістраваныя ў Сакратарыяце ТБМ у перыяд паміж 1 красавіка і 1 чэрвеня г. г.

1. Аршанская гарадская рада.
2. Валожынская раённая рада.
3. Салігорская гарадская рада.
4. Столінская раённая рада.
5. Хойніцкая раённая рада.
6. Стаўбцоўская раённая рада.

## ДЗЯКУЕМ!

за ахвяраванні ў карысць ТБМ імя Францішка Скарыны:

| | |
|---|---|
| — Беларускаму таварыству «Кніга» | 500 руб. |
| — Выдавецтву «Мастацкая літаратура» | 5000 руб. |
| — Выдавецтву «Навука і тэхніка» | 500 руб. |
| — В. Чарняўскаму | 20 руб. |
| — Варлену Кашкурэвічу | 100 руб. |
| — Міністэрству народнай адукацыі (паўторна) | 2000 руб. |
| — П. Н. Кавалёву | 50 руб. |
| — Алене Санько | 25 руб. |
| — Слуцкай СШ № 6 | 66 руб. |
| — Мінскаму абкому прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу | 3000 руб. |
| — Суполцы Таварыства беларускай мовы ў Нью-Йорку | 60 долараў |
| — Суполцы Таварыства беларускай мовы ў Рыме | 10 долараў |

Наш рахунак — 700510 у Беларускім рэспубліканскім Жылсацбанку.

## Паважаныя чытачы «Нашага слова»!

**Паведамляем вам, што з 1991 г. бюлетэнь Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ўключаны ў Каталог перыядычных выданняў СССР, індэкс 74975. Выпісаць «Наша слова» можна ў арганізацыях «Саюздруку» або ў любым аддзяленні сувязі СССР. Выходзіць штомесяц, падпісная цана на год — 2 руб. 40 кап.**

**Выпісвайце і чытайце «Наша слова»! Дасылайце на адрас рэдкалегіі допісы, артыкулы і іншыя матэрыялы, звязаныя з адраджэннем беларускай мовы, нацыянальнай культуры і гістарычнай спадчыны.**

## ДА ВЕДАМА ДЗЯРЖАЎНЫХ, КААПЕРАТЫЎНЫХ, А ТАКСАМА ЗАСНАВАНЫХ НА ІНШЫХ ФОРМАХ УЛАСНАСЦІ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ, АБ'ЯДНАННЯЎ, АРГАНІЗАЦЫЙ.

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ў асобе Рэспубліканскай Рады, а таксама яго гарадскіх і раённых арганізацый шукае магчымасці для наладжвання сумеснай гаспадарчай дзейнасці, накіраванай на вырашэнне Статутных задач Таварыства. Умовы сумеснай гаспадарчай дзейнасці абмяркоўваюцца пры заключэнні пагаднення.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

Рэдактар Ніл Гілевіч

Сябры калегіі: Янка Брыль, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Ігар Лапцёнак, Генадзь Мацур, Зміцер Санько, Мікола Супрановіч, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш (нам. рэдактара), Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.

Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.

Бюлетэнь выходзіць раз на месяц. Выданне безганарарнае.

МВПА імя Якуба Коласа. Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка». Наклад 10 000. Заказ 2176.